



# Рэгіянальная газета. Rh.by


тэлетыдзень
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

29 ліпеня 2016 года №31 **(1109)**




# Камунальнікі ў кватэры пенсіянеркі рамонт зрабілі абы-як



**Пенсіянерка Любоў Цюра скардзіцца на тое, што праз год пасля капітальнага рамонту ёй стала крыўдна за сваю кватэру.**

старонка 2

Фота Наталлі ТУР.

ТЭМА НУМАРА



Любоў Цюра расказвае, што ёй давялося змагацца з камунальнікамі, каб яны ёй дазволілі пакінуць ванну ў кватэры.







Хібы капітальнага рамонту: каробка з правадамі, якая не замацаваная над вокнамі, высокі парог, які з'явіўся ў кватэры пасля рамонту, і дзірка, якая мелася быць вентыляцыяй.

# Фоташпалеры старыя? А калі я старая – мяне таксама выкідаць?

МАЛАДЗЕЧНА

**Любоў Цюра жыве на вуліцы Маўчанскага. Дом пабудаваны ў 1959 годзе. А год таму ў доме ўпершыню зрабілі капітальны рамонт.**

Пра тое, што рамонт прайшоўся стыхійна, сведчаць новыя шрубы, якія як іголкі ў вожыка тырчаць з каробкі з правадамі, якая таго і глядзі абваліцца на падваконні жыхароў гэтага дома.

Яшчэ кінулася ў вочы тое, што год так і не знайшлі часу паставіць на дзверы дамафон. Таму заходжу ў пад'езд без перашкодаў, кідаю вока на тое, як жа за год паспелі так забрудзіць і закурыць у пад'ездзе новыя шклопакеты мясцовыя курцы, да кватэры №1 падымаюся па драўляных прыступках.

– У суседніх кватэрах, дзе жывуць маладыя мужчыны, там рамонт рабілі больш акуратна, а мне, 80-гадовай адзінокай пенсіянерцы, зрабілі так, што самой сорамна бывае глядзець на свае сцены і столь, – вітаецца Любоў Цюра і запрашае да сябе ў кватэру.

Аднак матэрыял не пра тое, якія благія работнікі ЖРЭУ, а пра стаўленне да чалавека.

Каб трапіць у калідор, трэба спусціцца з 15-сантыметровага парога.

– У нас пад падлогай трубы ляжаць, дык калі іх замянілі, аказалася, што патрэбны парог. Магчыма, моладзь і не заўважыць гэтай нязручнасці, але мне, старому чалавеку, вельмі цяжка падымацца і спускацца з яго, – заўважае Любоў Іосіфаўна.

Пасля таго "капітальнага рамонту" Любоў Цюра пераклеіла шпалеры, столь закрыла гіпсакардонам і сайдынгам.

**– Там па столі ішлі трэшчыны, калі я прасіла зрабіць з імі нешта, мне адказалі: "Трэшчын няма ў праекце".**

Па прызнанні Любові Іосіфаўны, слова "праект" яна чула часцей за іншыя. І тады, калі прасіла паставіць унітаз, каб зачыняліся дзверы, і тады, калі прасіла ў "Камунальніку" дазволіць ёй пакінуць ванну, таму што ў душавую кабіну яна не паднялася б на паддон, і тады, калі прасіла перанесці лічыльнік на газ.

**Трубы ў прыбіральні паставілі такім чынам, што ўнітаз давялося падсоўваць бліжэй да дзвярэй. І цяпер, калі там знаходзіцца чалавек, дзверы проста не зачыняюцца.**

Любоў Іосіфаўна прадэманстравала, як гэта выглядае.

– І гэта я адна жыву, а каб сям'я ці госці якія прыходзілі, гэта ж ганьба, – смяецца жанчына.

І калі сітуацыя з прыбіральняй да абсурду смешная, то з газам, як папярэджваюць нас газавыя службы, жарты небяспечныя.

Газавы лічыльнік жанчыне паставілі на сцяне справа ад увахода, а сама пліта стаіць ля супрацьлеглай ад дзвярэй сцяны.

– Зноў мне газаўшчыкі сказалі, што ў іх такі праект, калі я звярнулася з просьбай перанесці мне лічыльнік. І адказалі, што папрасіце ў ЖРЭУ, яны вам пліту да гэтай сцяны перацягнуць. У ЖРЭУ адказалі, каб я звярнулася да газаўшчыкоў, бо гэта іх кампетэнцыя.

А між тым чорны шланг ад лічыльніка да пліты правісае па сцяне.

– Слухайце, мне ж 80 гадоў, я перажыла інсульт, я ж за сябе не адказваю, а калі раптам я спатыкнуся і ўпаду на гэты шланг? Гэта ж увесь дом узарваць магу.

Любоў Іосіфаўна праводзіць да дзвярэй, спыняецца ў калідоры.

– Ведаеце, у мяне ж першая кватэра, таму рабочыя тут свае будаўнічыя матэрыялы і пакідалі.

На сцяне ў калідоры ў Любові Іосіфаўны былі наклееныя фоташпалеры. Рабочыя, калі выносілі-заносілі інструменты і матэрыялы, сапсавалі іх, падрапалі, парвалі. Калі прыйшла камісія прымаць рамонт, Любоў Іосіфаўна паскардзілася на гэта:

– Ой, ну што вы скардзіцеся, гэта ж старыя шпалеры, – сказала камісія.

– Дык і я старая, што цяпер, і мяне выкідваць за непатрэбнасцю?

Мая суразмоўца не скардзіцца, а проста моўчкі паказвае тыя хібы, якія пакінулі пасля сябе рабочыя, якія рабілі рамонт.

У прыбіральні замест вентыляцыі пакінулі вялізную чорную дзірку, там жа паклалі толькі цэлую плітку, бліжэй да кутоў, дзе плітку трэба было рэзаць, так і пакінулі шматкі мантажнай пены, якія тырчаць з тых зазораў.

Выходзім на двор да пад'езда, ля якога растуць кветкі ўсіх колераў і адценняў.

– А нам жа пагражалі, што прыедзе бульдозер і ўсё зраўнуе тут. Толькі каму ад гэтага палягчэе.

А нядаўна, расказвае жанчына, у іх двары нейкія будаўнічыя работы праводзіў МЭС.

Рабочыя паабяцалі, што калі закончаць, двор нам упарадкуюць. І, праўда, паклалі плітку ля пад'езда, каля дарожак пасадзілі кусты айвы. Расла яна тут нядоўга. Яшчэ карэнні пусціць не паспела, калі аднойчы раніцай жанчына праз акно заўважыла, што ніводнага кусціка няма. Суседзі расцягнулі сабе на лецішча.

Сэнс гэтага вялікага артыкула не ў тым, каб упікнуць некага і зрабіць ата-та.

Толькі хочацца спытацца і тых суседзяў, што павырывалі айву і забрудзілі пад'езд, і тых рабочых, якім не шкада чужых фоташпалераў і якія адрамантавалі кватэру на "хай так". А ці не сорамна вам глядзець у вочы тым, хто жыве побач з вамі? Таму, хто стварае вакол сябе прыгажосць?

Той, хто нават у свае 80 гадоў змагаецца за кожную кветку ў агародчыку ля пад'езда. І той, якая з любоўю ўпрыгожыла саматканай сурвэтачкай газавы лічыльнік, пераносу якога не значыцца ў праекце.

## Каментар ад камунальнікаў

У дыспетчарскай ЖРЭУ №1, да якога адносіцца вуліца Маўчанскага, патлумачылі, што адказаць на прэтэнзіі Любові Цюры яны не могуць з той прычыны, што сама жанчына са скаргамі на дрэнны рамонт у ЖРЭУ не звярталася.



Наталля ТУР
natali.turenok
@gmail.com
8-044-566-26-99
(працоўны)


Фота Галіны СІНІЦЫ.

На прадпрыемстве "Вагезэнерга" працуе каля 65 спецыялістаў. І работай яны не абдзеленыя, у гарачыя часы працуюць нават у тры змены.

# Як з маленькага прадпрыемства вырасла кампанія,
## разнастайнасці асартыменту якой няма ў краіне

МАЛАДЗЕЧНА

**Пакуль многія маладзечанцы сумуюць па савецкім часе і ўзгадваюць веліч некалі магутнага завода "Спадарожнік", сітуацыя аказваецца зусім іншай. На месцы былога радыёзавода ўтвораная вытворчасць дробных прадпрыемстваў.**

Такой з'яўляецца і кампанія "Вагезэнерга". Прэс-тур арганізавала на прадпрыемства Мінскае аддзяленне гандлёва-прамысловай палаты.

Кампанія займаецца тым, што выпускае цеплавыя лічыльнікі, лічыльнікі расходу вады, цеплавую аўтаматыку, шаравыя краны і іншую прадукцыю. Прыборы прызначаныя для пабудоў, якія ўзводзяцца, і для тых, што на рэканструкцыі.

Задума стварыць такое прадпрыемства ўзнікла ў 90-х гадах, калі значна вырас попыт на цеплавую прадукцыю. Спецыялісты ўбачылі, што папулярныя імпартныя цеплавыя краны. Яны былі ўпэўненыя, што змогуць зрабіць такі ж тавар, толькі беларускай вытворчасці. Зрабілі і не памыліліся ў сваім прагнозах – прадукцыя стала карыстацца попытам.

У 1995 годзе на прадпрыемстве распрацавалі першы рэгулятар водпуску цяпла і рэгулюючага клапана. У 1997 годзе пачаўся серыйны выпуск рэгулюючых шаравых кранаў, а ў 2000-х гадах кампанія пачала прадаваць сваю прадукцыю ва Украіну і Расію.

**Цяпер "Вагезэнерга" выпускае каля 1000 разнастайных цеплалічыльнікаў, чатыры тысячы клапанаў, 1000 тэрмарэгулятараў у год.**

Каля 60% прадукцыі прадаецца на беларускім рынку, астатняя частка ідзе на экспарт. Сярод краін, у якія яна пастаўляецца, – Расія, Казахстан, Украіна.

### Такога асартыменту няма ў ніводнага прадпрыемства

Вырабы карыстаюцца попытам як у камунальных, так і ў будаўнічых арганізацыях.

– Мы ўсцешаныя тым, што цяпер нашай прадукцыяй зацікавіліся і энергетыкі, – адзначае адзін з заснавальнікаў кампаніі **Юры Пагарцаў**. – Нядаўна вырабы закупіла Лунінецкая ЦЭЦ.

Спецыяліст кажа, што такога асартыменту прадукцыі, якую выпрабляе "Вагезэнерга", няма ні на адным беларускім прадпрыемстве.

– Так, ёсць прадпрыемствы, якія спецыялізуюцца на вытворчасці лічыльнікаў, цеплавой аўтаматыкі, – адзначае Юры Пагарцаў. – Аднак, каб выраблялі цалкам усе прыборы, такой кампаніі няма.

### Якасць прадукцыі дапамагае ўтрымацца на рынку

Утрымацца на рынку і быць канкурэнтаздольнымі дапамагае і высокая якасць прадукцыі.

– На нашым прадпрыемстве няма сервіснай службы, – расказвае Юры Пагарцаў. – І мы гэтым сапраўды ганарымся, бо адмоў і зваротаў з паломкамі вельмі мала. Наша прадпрыемства невялікае, і гэта дапамагае хутка рэагаваць на патрэбы рынку, выконваць нестандартныя заказы.

На прадпрыемстве працуе каля 65 спецыялістаў.

– Але гэта сапраўды годныя спецыялісты. Кожны з іх на сваім месцы, – задаволены Юры Пагарцаў. – Сярод нашых работнікаў ёсць інжынеры з вышэйшай адукацыяй. А ёсць слесары, у якіх няма вышэйшай адукацыі, але досведу і ведаў столькі, што ён можа працаваць і інжынерам.

А вось работай спецыялісты не абдзеленыя.

– Ад чэрвеня да снежня пачынаецца перыяд рамонтаў, а значыць, цеплавое абсталяванне карыстаецца попытам, – расказвае Юры Пагарцаў. – Работнікі працуюць нават у тры змены. Ад студзеня і да мая – зацішша. Аднак гэты перыяд дапамагае назапасіць вырабы на складах, якія распрададуцца за лета. Таму працаваць на склад у нашым выпадку вельмі карысна, такая сістэма дапамагае захоўваць якасць і паляпшаць яе.


Галіна СІНІЦА
8793850
@gmail.com
Skype: sinicagalina92

**ЛІЧБА НУМАРА**

**73,9** года – чаканая працяглaсць жыцця пры нараджэнні ў 2015 годзе.

У 2010 годзе – 70,4 года, у 1995 – 68,6.

Чаканая працягласць жыцця ў жанчын прыкладна на 10 гадоў большая за паказчык для мужчын.

Паводле Белстат.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 21.07 руб. | 28.07 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 1,9776 | **1,9943** |
| Еўра | 2,1879 | **2,1934** |
| Злоты, 10 | 5,0011 | **5,0322** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,1396 | **3,0257** |
| Грыўня, 100 | 7,9726 | **8,0488** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 27.07** | | |
| Еўра | 2.1600/2.1900 | **2.1600/2.1960** |
| Долар ЗША | 1.9600/1.9830 | **1.9700/1.9980** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 20.07 | | 27.07 | |
|---|---|---|---|---|
| | Цана руб. | | | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 149 800 | 14,98 | Праз спёку 26 і 27 ліпеня мясны павільён не працаваў | |
| Сасіскі, 1 кг | 58 500 | 5,85 | | |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 31 800 | 3,18 | | |
| Свініна (выразка), 1 кг | 80 000 | 8,00 | 70 000 | 7,00 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 41 800 | 4,18 | 41 800 | 4,18 |
| Селядзец, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 135 000 | 13,50 | 135 000 | 13,50 |
| Рыс, 0,9 кг | 15 000 | 1,50 | 15 000 | 1,50 |
| Грэчка, 0,8 кг | 24 700 | 2,47 | 24 700 | 2,47 |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 13 000 | 1,30 | 13 000 | 1,30 |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 24 000 | 2,40 | 24 000 | 2,40 |
| Маянэз, 200 г | 6 600 | 0,66 | 6 600 | 0,66 |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14 500 | 1,45 | 15 000 | 1,50 |
| Кава "Nescafe", 100 г | 38 500 | 3,85 | 38 500 | 3,85 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 17 000 | 1,70 | 17 000 | 1,70 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 8 500 | 0,85 | 9 500 | 0,95 |
| Часнок, 1 кг (малады) | 64 500 | 6,45 | 64 500 | 6,45 |
| Капуста, 1 кг (маладая) | 8 500 | 0,85 | 7 500 | 0,75 |
| Морква, 1 кг (маладая) | 11 000 | 1,10 | 9 500 | 0,95 |
| Баклажаны, 1 кг | 24 900 | 2,49 | 18 500 | 1,85 |
| Лімоны, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 54 900 | 5,49 |
| Апельсіны, 1 кг | 26 500 | 2,65 | 24 900 | 2,49 |
| Мандарыны, 1 кг | 39 900 | 3,99 | 39 500 | 3,95 |
| Нектарыны, 1 кг | 34 500 | 3,45 | 38 500 | 3,85 |
| Абрыкосы, 1 кг | 29 900 | 2,99 | 32 900 | 3,29 |
| Ківі, 1 кг | 27 000 | 2,70 | 26 900 | 2,69 |
| Буракі, 1 кг | 10 000 | 1,00 | 7 500 | 0,75 |
| Памідоры, 1 кг | 23 000 | 2,30 | 20 000 | 2,00 |
| Агуркі, 1 кг | 7 900 | 0,79 | 8 900 | 0,89 |
| Перац, 1 кг | 19 900 | 1,99 | 18 500 | 1,85 |
| Кавун, 1 кг | 8 000 | 0,80 | 8 000 | 0,80 |
| Дыня, 1 кг | 20 000 | 2,00 | 18 000 | 1,80 |
| Кабачок, 1 кг (малады) | 7 000 | 0,70 | 7 000 | 0,70 |
| Вінаград, 1 кг | 44 500 | 4,45 | 40 000 | 4,00 |
| Бананы, 1 кг | 23 500 | 2,35 | 22 900 | 2,29 |
| Яблыкі, 1 кг | 14 500 | 1,45 | 14 500 | 1,45 |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 32 500 | 3,25 | 29000 | 2,90 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | 1,80 | 18 000 | 1,80 |
| Масла, 1 кг | 100 000 | 10,00 | 100 000 | 10,00 |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Бульба, 1 кг (маладая) | 6900 | 0,69 | 5 900 | 0,59 |
| Сала, 1 кг | 100 000 | 10,00 | 100 000 | 10,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20 000 | 2,00 | 20 000 | 2,00 |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | 6,00 | 60 000 | 6,00 |





Быць п'яным на працы нельга не толькі таму, што за гэта звальняюць. У першую чаргу, гэта можа пагражаць здароўю і жыццю.

## Змагаюцца са злачыннасцю ў сельскай гаспадарцы

### Крадзеж на будоўлі свінакомплексу ля Соўлава, звальненні за п'янства

МАЛАДЗЕЧНА

**Сёлета работнікі Маладзечанскага райаддзела міліцыі разам з зацікаўленымі асобамі праводзяць мерапрыемствы, накіраваныя на паспяховае правядзенне ўборачнай кампаніі.**

Падчас мерапрыемстваў забяспечваюць захаванасць пасяўнога фонду, ядахімікатаў, мінеральных угнаенняў, сельскагаспадарчай тэхнікі і іншай маёмасці аб'ектаў аграпрамысловага комплексу (АПК). Міліцыянеры спыняюць факты адміністрацыйных правапарушэнняў, у тым ліку п'янства ў рабочы час. Таксама папярэджваюць прычыны і ўмовы, якія садзейнічаюць крадзяжам на аб'ектах АПК.

Усяго сёлета зарэгістравалі 376 крадзяжоў. Гэта 68% ад агульнай колькасці зарэгістраваных злачынстваў па лініі крымінальнага вышуку. Знайшлі 101 чалавека, каго падазраюць у злачынствах.

Выключэннем для зламыснікаў не стала маёмасць на аб'ектах АПК. Усяго сёлета ў гэтай галіне зарэгістравалі пяць падобных адміністрацыйных правапарушэнняў і адно злачынства.

27 мая на будоўлі аб'екта "Свінагадоўчы комплекс на 100 тысяч галоў на год" каля вёскі Соўлава прапала чатыры ўпакоўкі пенаполістэролу. Шкода складае каля 150 рублёў (1,5 мільёна недэмінаванымі).

Другая праблема АПК – тое, што некаторыя работнікі знаходзяцца на працы ў нецвярозым стане.

За першае паўгоддзе 13 работнікаў сельскагаспадарчых арганізацый прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці па гэтай прычыне. Чатырох з іх звольнілі.

Нагадваем пра адміністрацыйную адказнасць за правапарушэнні.

Дробны крадзеж цягне штраф ад дзесяці да трыццаці базавых велічынь ці арышт. Пры паўторным злачынстве штраф складае ад 30 да 50 базавых ці арышт.

За распіванне алкаголю ў грамадскіх месцах можна атрымаць штраф да васьмі базавых велічынь.

За тое, што чалавек знаходзіцца на працы ў нецвярозым стане, ён можа атрымаць ад двух да пятнаццаці базавых ці арышт.

Калі вам вядома пра злачынства ці вы сталі сведкам супрацьпраўнага дзеяння, Маладзечанскі райаддзел міліцыі просіць паведаміць інфармацыю па тэлефонах: **102, (80176) 77-16-56, 77-14-88, 77-44-11.**

**Паводле паведамлення Маладзечанскага РАУС.**









Здымак Астравецкай АЭС сёлетняй вясной.

# Мінэнерга: адбылася няштатная сітуацыя на беларускай АЭС

АСТРАВЕЦ

**26 ліпеня на сайце Міністэрства энергетыкі і прадпрыемства "Беларуская атамная электрастанцыя" размясцілі паведамленне пра інцыдэнт, які адбыўся 10 ліпеня.**

"Шэраг інтэрнэт-крыніц апублікавалі паведамленне пра тое, што 10 ліпеня 2016 года на пляцоўцы будаўніцтва Беларускай атамнай электрастанцыі меў месца "факт абрушэння рэактара пры яго ўстаноўцы ў рэактарным аддзяленні".

На справе, па інфармацыі генеральнага падрадчыка АТ "Атамбудэкспарт" няштатная сітуацыя адбылася на пляцоўцы захоўвання корпуса рэактара пры правядзенні такелажных прац па яго перамяшчэнні у гарызантальнай плоскасці.

РУП "Беларуская АЭС", якая з'яўляецца заказчыкам праекта, без прамаруджвання запатрабавала у генеральнага падрадчыка ўсе неабходныя дакументы і звесткі. Цяпер аналіз гэтай сітуацыі працягваецца. Пасля ўсебаковага вывучэння беларускімі спецыялістамі інфармацыі ад АТ "Атамбудэкспарт" будзе прымацца адпаведнае рашэнне. Пры гэтым беларускі бок будзе ў першую чаргу кіравацца неабходнасцю безумоўнага забеспячэння бяспекі станцыі, якую будуюць".

Для літоўскіх СМІ гэтая тэма стала галоўнай навіной 26 і 27 ліпеня. Інфармацыйнае агенцтва Baltic News Service піша 27 ліпеня: "Літва збіраецца накіраваць ноту ў Беларусь з просьбай перадаць вынікі інцыдэнту каля Астраўца пры будаўніцтве АЭС". Літоўскае агенцтва ўдакладняе, што беларускае Міністэрства энергетыкі прызнае "няштатную сітуацыю", але дэталі не раскрывае. Па інфармацыі BNS, "агрэгат вагой больш за 300 тон упаў з вышыні некалькі метраў".

Беларускі партал tut.by удакладняе, што прэзідэнт Літвы Даля Грыбаўскайтэ заявіла 26 ліпеня ў Вільні, што асцярогі Літвы з нагоды бяспекі будаўніцтва атамнай станцыі былі абгрунтаванымі. Яна таксама паведаміла, што калі Беларусь не прыме меры для гарантавання міжнародных стандартаў бяспекі, то Літва разам з міжнароднай супольнасцю пастараецца перашкодзіць яе дзейнасці.

**Аддзел інфармацыі.**

**Даведка "РГ".**
Такелажныя работы – комплекс мер, накіраваных на падняцце розных грузаў з мэтай іх пагрузкі ці выгрузкі.

## Бярвенні не дазволілі ўгнаць машыну

АСТРАВЕЦ

У цэлым паспяхова для гаспадара машыны ў Астравецкім раёне закончылася гісторыя з угонам аўтамабіля.

Усё пачалося з таго, што 29-гадовы мужчына выпіў у вёсцы Гудзенікі. Пасля ён вырашыў паездзіць ноччу па населеным пункце, але сваёй машыны для гэтага не было. У двары аднаго з дамоў убачыў "Сітраэн" і захацеў яго ўгнаць. Разбіў фортку, завёў аўто і пачаў рух. Але далёка ад'ехаць не атрымалася.

Пры выездзе са двара ён не заўважыў бярвенні і наехаў на іх. Колы машыны павіслі ў паветры, а аўтамабіль застаўся на месцы.

Гаспадар іншамаркі толькі раніцай убачыў, што здарылася з яго "Сітраэнам".

Сур'ёзных пашкоджанняў машына не атрымала, за выключэннем разбітага бакавога шкла і вырванага замка запальвання. Супрацоўнікі міліцыі знайшлі і затрымалі зламысніка. У адносінах да яго ўзбудзілі крымінальную справу па артыкуле "Угон".

**Яраслаў ВАСІЛЕЎСКІ, uvd.grodno.by.**

## Злілі паліва з машыны на стаянцы

ВАЛОЖЫН

20 ліпеня каля 3:30 ночы рэйдавая група каля вёскі Вялікае Поле затрымала машыну "Вольва". У ёй мінчане 22 і 24 гадоў перавозілі 340 літраў дызельнага паліва.

Устанавілі, што паліва скралі з аўтапоезда "Вольва" на стаянцы каля вёскі Шараі. РАСК узбудзіў крымінальную справу.

## 72-гадовую бабулю збілі палкай

ВІЛЕЙКА

Раніцай 20 ліпеня з вёскі Балашы ў ЦРБ шпіталізавалі 72-гадовую жанчыну.

Яна была без свядомасці, з адкрытай чэрапна-мазгавой траўмай.

Устанавілі, што вечарам напярэдадні ў двары дома падчас спрэчкі яе збіў палкай мясцовы жыхар, якому 46 год.

Узбуджаная крымінальная справа.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**




Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

На завулку Зялёны ў Маладзечне ў панядзелак гружаны піламатэрыяламі МАЗ з прычэпам не здолеў нармальна размінуцца з сустрэчным аўто. Абышлося без ахвяр. Мясцовыя жыхары сцвярджаюць, што небяспека падсцерагае іх тут пастаянна.

# Небяспека на колах

## Ці можна сказаць, што яны размінуліся?

МАЛАДЗЕЧНА

**У панядзелак апоўдні на завулку Зялёны з'ехаў у кювет лесавоз, які перавозіў дошкі. Відавочцы сцвярджаюць, што ён размінаўся з сустрэчным аўто.**

Аб здарэнні рэдакцыі паведамілі чытачы.

Мала заставалася, кажуць сведкі, каб ён не абрынуўся ў суседні двор:

– Ехаў рэзва, – удакладняе жыхарка вуліцы Мічурына **Рэгіна Карпіцкая**. – І гэта гісторыя яшчэ добра закончылася. Мы жывём у пастаянным страху за нашы жыцці. Тут вуліцы вузкія, а яны, грузавікі, носяцца як ашалелыя...

Суразмоўцы паказваюць перапіску з афіцыйнымі ўстановамі. У сваіх зваротах яны просяць абуладкаваць ліўневую каналізацыю, арганізаваць па-іншаму вываз бытавога смецця, паўплываць на інтэнсіўны рух транспарту...

Праблемы назапашваліся з часам. Першапачаткова узровень празнай часткі на Мічурына і Зялёным быў ніжэйшы. Але кварталы забудовы стаяць, па словах жыхароў, на нізкім месцы, і па просьбе людзей некалькі дзесяцігоддзяў таму вуліцы падсыпалі. Для адводу вады зрабілі канавы. І ўрэшце, нечакана для сябе, яны атрымалі новыя праблемы: затапленне ўчасткаў, будынкаў, вузкую праезную частку.

> **І ўсё ж на сёння самая вострая, па словах большасці маіх суразмоўцаў, праблема руху грузавікоў.**

– Фуры з лесам шуруюць днём і ноччу, – расказвае **Наталля Пешкур**, якая тры гады таму перасялілася на Зялёны ў бацькоўскі дом. – Гэта сталася, калі на Мічурына запусцілі вялізны, мабыць, дрэваапрацоўчы цэх. А раней тут быў арганізаваны аднабаковы рух, і толькі для легкавога транспарту.

Тое, што здарылася ў панядзелак, па сведчаннях жыхароў, не першы выпадак з удзелам грузавога транспарту ў раёне скрыжавання завулка Зялёны і вуліцы Мічурына. Рэгіна Карпіцкая паказвае сляды былых ДТЗ: пашкоджаныя бетонны плот, бетонныя канструкцыі сістэмы водаадводу.

– А што калі дзеці патрапяць пад колы цягачоў? – задаюць пытанне узрушаныя тым, што адбылося ў панядзелак.

Сёння жыхары Мічурына, Зялёнага, Ціхай бачаць вырашэнне "транспартнай праблемы". **Дзмітры Корзун**, які жыве на Мічурына з маленства, напрыклад, сцвярджае, што дастаткова знізіць дазволеную хуткасць і не пускаць сюды грузавікі. І дадае:

– І нават радары паставіць.

Дзмітры кажа, што існуе спосаб арганізацыі руху для грузавікоў праз найбліжэйшы аэрадром. Праўда, шырокая дарога, што праходзіць праз яго, без пакрыцця.

Па словах супрацоўнікаў ДАІ, якія прыбылі на месца здарэння, якое і стала прычынай званка нашай чытачкі ў рэдакцыю, папярэдне яно не можа быць аднесенае да разраду дарожна-транспартных: "Адбыўся з'езд з дарогі".

Пункт 2.18 "Правілаў дарожнага руху" сапраўды вызначае дарожна-транспартнае здарэнне як здарэнне, здзейсненае з удзелам хаця б аднаго механічнага транспартнага сродку, які б знаходзіўся ў руху, у выніку якога "прычыненая шкода жыццю ці здароўю фізічнай асобы, яго маёмасці ці маёмасці юрыдычнай асобы". Калі такой шкоды не будзе зафіксавана, то і ДТЗ на завулку Зялёны не было. Хаця гэта, канешне, не азначае, што ніякіх праблем тут не існуе.

Таму мы даслалі ў ДАІ некалькі пытанняў, звязаных з названымі праблемамі. Сярод іх мы пытаемся аб магчымасці змянення схемы руху грузавога транспарту, каб вывесці яго за межы згаданых вуліц у бліжэйшы час або ў нейкай перспектыве і магчымым абмежаванні хуткаснага рэжыму для аўтамабільнага транспарту на гэтых вуліцах з дапамогай адпаведных дарожных знакаў і стацыянарных прыбораў фіксацыі хуткасці. У ДАІ абяцалі ўнікнуць у сітуацыю і даць нам адказ. Сачыце за "Рэгіянальнай газетай"

**Мікола ГАЙДУК.**

**Больш фота на сайце**






Фота 1rfstars.org.

Правільнае харчаванне важнае не толькі для здароўя, але і для прыгажосці.

# Што і як трэба есці, каб заставацца здаровым

**Здаровае правільнае харчаванне разам з рэгулярнай фізічнай актыўнасцю садзейнічае ўмацаванню ахоўных сіл арганізма і прафілактыцы захворванняў.**

Галоўны закон правільнага харчавання – збалансаванасць. У рацыён павінны ўваходзіць усе кампаненты:

- бялкі – запускаюць унутраныя абменныя і іншыя працэсы,
- тлушчы – даюць сілу,
- вугляводы – харчуюць не толькі мозг, але і вынослівасць арганізма ў цэлым,
- вітаміны – абараняюць арганізм ад уздзеяння шкодных фактараў навакольнага асяроддзя.

І толькі збалансаваныя ў адзіную харчовую сістэму яны могуць зрабіць чалавека энергічным, здаровым і жыццярадасным.

Ешце розныя прадукты, а перавагу аддавайце ежы раслліннага паходжання.

> **У рацыёне абавязкова павінны быць: хлеб, макарона, розныя крупы, бульба, гароднiна і фрукты, малако, кефір, тварог, сыр, мяса, птушка, рыба, яйкі, бабовыя, арэхі.**

Не забывайце пра каштоўны прадукт здаровага харчавання – пчаліны мёд. Ён багаты на лёгка засваяльныя вугляводы – глюкозу і фруктозу, утрымлівае шмат вітамінаў і мікраэлементаў.

Нічога новага ў прадуктах здаровага харчавання няма, яны даступныя кожнаму, таму харчавацца правільна можа кожны з нас.

Рэкамендуем названыя прадукты есці ўмерана, абіраючы тыя, што ўтрымліваюць мала тлушчу. Абмяжоўвайце сябе ў салодкім і салодкіх напітках, абірайце прадукты з нізкім утрыманнем цукру.

Сачыце, каб агульная колькасць солі не перавышала шэсць грамаў на дзень – гэта адна чайная лыжка. Выкарыстоўвайце ёдаваную соль.

Харчовая каштоўнасць прадуктаў у многім залежыць ад спосабу і ўмоў захоўвання, а таксама ад таго, як іх прыгатавалі.

Аддавайце перавагу свежапрыгатаванай ежы, таму што нават самыя свежыя і якасныя прадукты губляюць біялагічную вартасць на наступны дзень. У іх застаюцца толькі калорыі.

Тэрмічная апрацоўка павінна быць мінімальная. Не забывайце, што смажаная ежа не вельмі карысная для страўніка, а таксама шкодная з-за кантакту з тлушчамі.

Сёння адзін з найлепшых спосабаў гатаваць – у параварцы. Не любіце варанае ці паравое? Запякайце ў духоўцы!

Беражыце сваё здароўе, харчуйцеся правільна!

**Таццяна КУГАРА,**
**доктар-гігіеніст (загадчыца аддзялення) аддзялення гігіены харчавання аддзела гігіены ЦГЭ.**



# Маладзечаншчына літаратурная: або Шэптам Ушы натхнёныя

**Тамара Бярэзіна, Лідзія Гардынец, Лявон Цімохін, Галіна Асіповіч, Алена Ліхадзіеўская, Антаніна Нявера, Таццяна Тамашэвіч, Святлана Капуцкая, Ларыса Сысун, Генадзь Пшэнік, Альберт Аўчыннікаў…** Вось яны, некаторыя з сённяшніх творцаў, якім дорыць натхненне Маладзечаншчына. Многія з іх пастаянныя ўдзельнікі літаратурных імпрэз і творчых семінараў горада, вобласці і рэспублікі, аўтары ўласных кніг і тэкстаў песень, пераможцы літаратурных конкурсаў рознага ўзроўню…

І ці можа быць інакш на зямлі, якая нарадзіла вялікага і геніяльнага **Купалу** (і ўжо шмат гадоў мая родная школа №1 носіць яго імя), шаптала незабыўныя радкі таленавітаму **Багдановічу** і развівала адметны талент празаіка **Ядвігіна Ш**. (Антона Лявіцкага)?

У Маладзечне на мяжы 19-20 стагоддзяў працавала настаўніцкая семінарыя, дзе вучыліся пісьменнік **Міхась Чарот** (1896 – 1937) і публіцыст грамадскі дзеяч **Сымон Рак-Міхайлоўскі** (1855 –1937), а яшчэ дзейнічала ўласная бібліятэка.

Крыху раней на тэрыторыі сённяшняга Маладзечанскага раёна (а ў канцы 18 стагоддзя гэта быў Ашмянскі павет) у вёсцы Мясата нарадзіўся будучы паэт-рамантык сябар Адама Міцкевіча **Тамаш Зан** (1796 – 1855).

Але вернемся ў 20 стагоддзе. З 1954 года ў Радашкавічах жыў адзін з лепшых празаікаў таго часу член Саюза пісьменнікаў СССР **Аркадзь Чарнышэвіч**. А сёння жыве літаратуразнаўца і крытык **Ціхан Чарнякевіч.**

З 1960-х гадоў пры аб’яднанай газеце “Святло камунізму” (сёння “Маладзечанская газета”) і да нядаўняга часу дзейнічала літаратурнае аб’яднанне “Купалінка”. Ля вытокаў яго стварэння стаяў гісторык, пісьменнік, паэт, публіцыст **Мікола Ермаловіч**, а з 1970-х гадоў аб’яднаннем кіраваў **Генадзь Каханоўскі** – навуковец, гісторык, пісьменнік, публіцыст, чалавек, які шмат зрабіў для Маладзечаншчыны. У 1980 – 90-я кіраўніком аб’яднання быў паэт і журналіст **Валеры Маркелаў**, а апошнім часам **Міхась Казлоўскі** – пісьменнік, краязнаўца, паслядоўнік справы Генадзя Каханоўскага. Творы паэтаў-пачаткоўцаў рэгулярна з’яўляліся ў газеце пад рубрыкай “Купалінка”. З аб’яднання “выйшлі” член Саюза пісьменнікаў і Саюза журналістаў Беларусі галоўны рэдактар рэспубліканскага часопіса “Алеся” **Тамара Бунта**; член Таварыства вольных літаратараў і Саюза пісьменнікаў Беларусі **Людка Сільнова**; член Саюза беларускіх пісьменнікаў **Стася Наркевіч (Настасся Лазебная)**; члены Саюза пісьменнікаў Беларусі паэты **Ала Клемянок** і **Кастусь Цыбульскі**; паэтка, журналіст, вядучая беларускамоўнай праграмы “Віленскі сшытак” на Літоўскім тэлебачанні **Таццяна Сапач**, жыццё якой трагічна абарвалася ў 2010 годзе.

“Купалінка” – не адзінае літаратурнае аб’яднанне, якое “выхоўвала” маладыя таленты горада. У 1990-я пры Цэнтры эстэтычнага выхавання дзяцей і падлеткаў працавала дзіцячае літаб’яднанне “Узлёт”, якім кіравала **Таіса Трафімава** – член Саюза пісьменнікаў. А пры Палацы культуры Маладзечна дзейнічаў вядомы “Агмень”, дзе літаратараў-пачаткоўцаў цёпла прымала пісьменніца, спявачка, кампазітарка **Таццяна Атрошанка.**

Імя **Аляксандра Хазяніна** большасці маладзечанцаў вядомае ў сувязі з тым, што гэты творчы чалавек доўгі час кіраваў “Маладзечанскай газетай”. А яшчэ ён празаік, публіцыст, член Саюза пісьменнікаў і Саюза журналістаў Беларусі. Дарэчы, і сённяшні рэдактар раённай газеты **Аляксандр Лазоўскі** піша цудоўныя вершы і друкуецца ў калектыўных паэтычных зборніках.

На дзіцячых вершах святара з вёскі Дубравы і паэта **Івана Крупко** гадаваліся чытачы рэспубліканскага часопіса “Вясёлка”, а цікавы празаік, публіцыст, член Саюза пісьменнікаў Беларусі **Янка Галубовіч** (1942 – 2014) вядомы як аўтар казак і апавяданняў для дзяцей і вобразных пейзажных замалёвак для дарослых.

У Гродне жыве наша зямлячка **Ірына Шатыронак** – член Саюза пісьменнікаў Беларусі, празаік, крытык, публіцыст.

Літаратурную дзейнасць з адказнай працай доктара ў супрацьтуберкулёзным дыспансеры паспяхова сумяшчае **Міхась Чыкалаў**: піша апавяданні, мініяцюры, перакладае на беларускую мову прозу расійскіх і амерыканскіх аўтараў.

Членамі Саюза пісьменнікаў Беларусі ў розныя часы сталі **Аркадзь Жураўлёў**, **Настасся Нарэйка**, **Валеры Хіхіч**, **Вячаслаў Дашкевіч.**

Кожны год у рамках Нацыянальнага фестывалю песні і паэзіі ў Маладзечне жыхароў горада збірае літаратурная гасцёўня.

Рэгулярна ладзяцца творчыя конкурсы, дзе літаратары могуць праявіць свае здольнасці. Творы маладзечанскіх паэтаў і пісьменнікаў друкуюцца ў калектыўных зборніках. Тут можна згадаць кнігі “Горад сонечных промняў” і “Прызнанне ў любові і ў каханні”. А ў 2015 годзе дзякуючы нястомнаму Міхасю Казлоўскаму і фінансавай падтрымцы Маладзечанскага райвыканкама выйшла грунтоўная кніга “Там, дзе Уша серабрыцца”, куды ўвайшлі паэтычныя, празаічныя і публіцыстычныя творы пісьменнікаў, жыццё і творчасць якіх звязаныя з Маладзечаншчынай.

Ну, і нарэшце… Ужо 21 год у Маладзечне месціцца рэдакцыя “Рэгіянальнай газеты”, дзе ад лютага гэтага года для творцаў і чытачоў пачаў рэалізоўвацца праект “Літпарад Павілля”.

## Таццяна Атрошанка



Таццяна Атрошанка – паэтэса, празаік, аўтар песень. Член Саюза пісьменнікаў Беларусі. Скончыла ГДУ імя Скарыны. Жыве на Маладзечаншчыне. У 2010 годзе ўбачыла свет асабістая кніжка вершаў Таццяны Атрошанкі “Не я…” . Творчасць не замыкаецца ў коле паэзіі. Піша і прозу, і п’есы, і, канешне, песні, з’яўляючыся аўтарам як слоў, так і музыкі.

Лаўрэат шматлікіх рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў. Напрыклад, двойчы (у 2007 і 2009 гг.) перамагала ў конкурсе “Музычны спрынт” (г. Сочы, Дагамыс) у намінацыі “Лепшая аўтарская работа”.

Узнагароджаная Дыпломам фестывалю аўтарскай песні ў межах рэгіянальнага беларускага тура Міжнароднага фестывалю аўтарскай песні “Пецярбургскі акорд-2004” у намінацыі “Кампазітар.”

Мае Дыпломы лаўрэата ў намінацыі “Лепшая аўтарская работа” міжнароднага конкурсу ”Кубак Еўропы”(2009), а таксама Дыплом міжнароднага конкурсу “Залаты Фенікс” , які быў створаны Міжнародным дабрачынным фондам “Наша будучыня” пры падтрымцы Міністэрства культуры РФ у намінацыі “Лепшая аўтарская работа за словы да вакальнага твора”.

З’яўляецца лаўрэатам 1 ступені ў намінацыі “Аўтарская песня” Рэспубліканскага конкурсу, прысвечанага 80-годдзю Беларускай энергасістэмы.

Мае падзяку тэлевізійнага міжнароднага фестывалю “На высокай хвалі-2009” і падзяку ад саюза юрыдычных асоб “Рэспубліканская канфедэрацыя прадпрымальніцтва” за актыўны ўдзел у Рэспубліканскім літаратурным форуме “Багдановіч”, арганізаваным Цэнтрам міжкультурнага дыялогу і сацыяльных ініцыятыў Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва і Саюзам пісьменнікаў Беларусі (2013).

## літПАРАДА ад Таццяны Атрошанкі

Некалі вельмі даўно стары мудрэц сказаў, што ў адну раку нельга ўвайсці двойчы. І сапраўды, сённяшні дзень багаты на падзеі. Час плыве, нібы тая рака, зносячы з сабой радасці і клопаты такога, здаецца, простага і адначасова такога складанага і неадназначнага чалавечага жыцця. І настае момант, калі хочацца спыніцца, перавесці дыханне і крыкнуць словамі вядомага паэта на ўвесь белы свет: “Спыніся, імгненне!”. І нярэдка гэта ўдаецца. І тады гэтыя моманты, вобразы, пахі і пачуцці пачынаюць жыць у душы, застаючыся па-за часам і прасторай у краіне, якой няма ні на адной карце, там, дзе пануе яе вялікасць – Паэзія …

Я люблю людзей з загадкай у вачах. З той цікаўнасцю, якая прымушае ўбачыць незвычайнае ў будзённым, гадзіну назіраць за павуком, які сплятае сілкі сярод кветак… З разуменнем галоўнага, што дазваляе цярпліва выслухаць хама і, моўчкі адышоўшы, усміхнуцца таму, што пакінуў яго, здзіўленага і разгубленага сам-насам з яго брудам… Паэты людзі асаблівыя… Яны не могуць вырашаць: пісаць ім ці не… Рашэнне прымаецца за іх, і натхненне прыходзіць часам у самы нязручны момант, і таму галоўная парада – паспець усё занатаваць. Чарнавікі твораў часта выглядаюць не надта: гэта могуць быць накіды на білеціках ці папяровых сурвэтках, празрыстых і злёгку надарваных у тых месцах, дзе словы для новага верша ці песні яшчэ не знайшліся… Але яны абавязкова знойдуцца, каб запоўніць пустэчу…

### Двубой

Я хаджу, як заўсёды, белай,
І няроўны вяду двубой –
Я у сэрца трапляю смела,
А ты меч адкідаеш свой…
І з усмешкай скідаеш латы
З непакорнай маёй душы…
Мілы вораг ты мой закляты!
Ты у ёй тут заўсёды жыў!
Адступае мой полк знямелы,
Я іду праз фігурак строй,
Апынаюся каралевай,
Калі побач іду з табой…

***

Я не сумую – я жыву
У свеце сноў, падмане мрояў…
І, лёгка вывучыўшы ролю,
Я праз сусвет да зор плыву…
Я не блукаю – я стаю
Сярод забытых абяцанняў,
І льецца дождж былых прызнанняў
Ў душу раскрытую маю…
Я называю – не заву
Сваю самоту белым птахам…
Я тут… Я ёсць пад зорным дахам…
Я не сумую… Я жыву …

### Надзея

Аспрэчваюцца навіны,
Высвечваюцца хвіліны,
Сплываюць удаль даліны
аблокаў…
Гавораць услых падзеі,
А сэрца жыве надзеяй,
Што ты будзеш там, дзе я…
Далёкі свой шлях не зблытай –
Вяду Арыядны ніткай
Па мрояў рачулцы плыткай…
Ў расстанні душа сталее,
А сэрца жыве надзеяй,
Што ты будзеш там, дзе я…

## Анастасія Бабкевіч



Анастасія Бабкевіч. Нарадзілася ў вёсцы Слабада, што на Мядзельшчыне, у 1994 годзе. У 2003-м разам з сям’ёй пераехалі ў Будслаў. Пасля заканчэння дзевяці класаў мясцовай школы лёс звязаў з Маладзечаншчынай: паступіла ў Маладзечанскі дзяржаўны політэхнічны каледж па спецыяльнасці “тэхнік-тэхнолаг”, у час вучобы наведвала літаратурнае аб’яднанне “Агмень”, якім кіравала паэтка Таццяна Атрошанка. Цяпер вучыцца ў БДУ па спецыяльнасці “журналіст”.

Свой першы верш напісала яшчэ ў трэцім класе. Асабістых зборнікаў з вершамі пакуль не мае. Публікавалася ў газетах “Нарачанская зара”, “Рэспубліка” і інш.

### Сон

Быў гэта толькі дзіўны сон…
Шчаслівы, радасны быў ён.
Ласкавы майскі ветрык вееў,
І шапацеў лістотай клён.

У небе зоркі шлях стваралі,
Кідалі позірк на зямлю.
Стракозы побач нам спявалі
І паглыналі цішыню.

І быццам музыка гучала…
Ліліся гукі тут і там.
Ды хутка ночка праімчала,
Закрыў усё сівы туман…

І зніклі вобразы начныя,
І пацішэў ужо той звон…
Мы не былі з табой чужыя,
Але быў гэта толькі сон…

### Я дзяўчына зямлі беларускай

Я дзяўчына зямлі беларускай,
Я дзяўчына з цудоўнага краю.
Ідучы па сцяжыначцы вузкай,
По кавалку надзею збіраю.
Я збіраю надзею на тое,
Каб заўжды быў спакой на зямлі,
Каб і думкі, і слова святое
Нас сюды праз гады прывялі.
Каб не сціхлі птушыныя спевы
І шаптаўся бярозавы гай…
Закружыў каб вясновым павевам
Незабыўны квітнеючы май!
Я дзяўчына маёй Беларусі,
Я дзяўчына з чароўнага краю…
Нізка-нізка табе пакланюся
І з табой быць навек абяцаю.

***

Спрадвеку сагрэтая ласкаю,
Ты грэеш і нас спакваля.
Апетая песнямі, казкамі
Чароўная наша зямля.
Лугамі, лясамі ды рэчкамі
Ты вабіш усіх да сябе!
Малымі, вялікімі сцежкамі
На яве вядзеш і у сне.
Азёры тут срэбрам бруяцца,
Крынічкі чуваць тонкі звон.
Хачу я табой любавацца,
Аддаць нізкі-нізкі паклон!

Мой слаўны, мой родны куточак,
І ліпа, і белы язмін,
І самы малы каласочак
У сэрцы заўсёды маім!

# Чаму Валожын быў еўрапейскім цэнтрам іудзейскай адукацыі

*Працяг. Пачатак у №№29, 30.*

**ВАЛОЖЫН**

**За сваю больш чым 600-гадовую гісторыю Валожын быў зусім розным па сваім этнічным складзе – літоўскім, польскім, яўрэйскім, беларускім.**

Калі ў 1843 годзе ўрад прыняў рашэнне, у адпаведнасці з рэкамендацыямі "яўрэйскага камітэта", склікаць канферэнцыю рабінаў, каб абмеркаваць праблемы яўрэйскай адукацыі, рабі Іцхак з Валожына быў запрошаны ў Санкт-Пецярбург. Ён скарыстаўся гэтай магчымасцю, каб атрымаць афіцыйнае прызнанне ешывота, прад'явіўшы ў Міністэрстве адукацыі ахоўны ліст, выдадзены ў свой час яго бацьку.

### Існаванне ешывота пад пагрозай

Пасля смерці рабі Іцхака ў 1849 годзе, рабі Эліэзер Іцхак Фрыд быў прызначаны кіраўніком ешывота, а рабі Нафталі Цві Яхуда Берлін прарэктарам.

Рабі Эліэзер Іцхак памёр у 1854 годзе. Пасля гэтага і рабі Берлін, і ўнук рабі Хаіма, рабі Ёсеф Бер Салавейчык, былі прызначаныя кіраўнікамі валожынскага ешывота. Паміж імі пачалася спрэчка з прычыны метадаў навучання.

Калі спрэчка пагражала паставіць пад пагрозу існаванне самога ешывота, дэлегацыя вядомых літоўскіх рабінаў, у тым ліку Давід Тэвеле з Мінска, Іосіф Слуцкі, Ісаак Эльханан Спектар з Коўна і Зееў Магід з Вільні, прыбыла ў Валожын для таго, каб урэгуляваць спрэчныя пытанні.

Камітэт пастанавіў, што рабі Берлін павінны быць галоўным у ешывоце, а рабі Ёсеф Бер яго намеснікам. З таго часу ешывот ўзначалілі два чалавекі – кіраўнік ешывота і яго намеснік. У 1865 годзе рабі Ёсеф Бер сышоў з ешывота на пост рабіна Брэст-Літоўска.

Рабі Рафаэль Шапіра, зяць рабі Берліна, быў прызначаны на яго месца і служыў на гэтай пасадзе да 1881 года. Яго пераемнікам быў рабі Хаім Салавейчык, сын Ёсефа Бера і ўнук рабі Берліна.

### Барацьба супраць ешыботаў

У канцы 1850-х гадоў расійскі ўрад аднавіў кампанію супраць традыцыйных рэлігійных навучальных устаноў – хедараў і ешыботаў. Згодна з урадавымі інструкцыямі, кандыдатам у казённыя рабіны мог быць выпускнік рабінскага вучылішча (з 1873 года – яўрэйскага настаўніцкага інстытута). Да прыкладу, казённае рабінскае вучылішча ў Вільні існавала ад 1847 года. Казённыя рабіны зацвярджаліся губернскім ўладамі, ад іх яны і атрымлівалі пасведчанне на званне рабіна.

Менавіта казённы рабін прадстаўляў яўрэйскую суполку ва ўрадавых установах. У абавязкі казённага рабіна ўваходзіла прымаць прысягу ў яўрэяў-навабранцаў, весці кнігі запісаў нараджэнняў, шлюбаў, смерцяў, у дні дзяржаўных святаў і тезаімяніннаў імператара прамаўляць у сінагозе патрыятычныя пропаведзі на рускай мове.

Урад меркаваў, што казённы рабін будзе духоўным пастырам абшчыны і будзе "назіраць, каб у грамадскім набажэнстве і абрадах веры былі захаваныя ўстаноўленыя правілы. Тлумачыць яўрэям законы і вырашаць непаразуменні, калі ў іх будуць сустракацца".

Барацьбу супраць традыцыйных рэлігійных ешыботаў вялі і прыхільнікі свецкіх, не рэлігійных ведаў. Яны пасылалі мемарандумы прызначанаму дзяржавай яўрэйскаму камітэту з просьбай закрыць ешыботы, як "гадавальнікі фанатычных рабінаў". Урад, відавочна, лічыў, што пакуль ешыботы працягваюць існаваць, выпускнікі дзяржаўных рабінскіх семінарый не будуць прынятыя на пасты рабінаў, і што ешывот у Валожыне ёсць галоўны канкурэнт дзяржаўным рабінскім семінарыям.

У красавіку 1858 года ешывот быў зачынены па загадзе ўладаў на той падставе, што яго навучальныя планы не былі прадстаўленыя на зацвярджэнне ў Міністэрства адукацыі. Знакамітыя яўрэі з Вільні і Мінска накіравалі петыцыю уладам з просьбай дазволіць Валожынскаму ешывоту аднавіць




Валожынскі ешывот. Паштоўка 1930-х гадоў.

Скан забяспечаны Уладзімірам ПУЧКОВЫМ.

працу з павагі да яе важнай ролі ў падрыхтоўцы выдатных рабінаў. Нягледзячы на ўсе намаганні яўрэяў, улады не адмянілі свайго рашэння. Але, як і ў 1824 годзе, рашэнні ўладаў не былі выкананыя. Ешывот працягваў працаваць.

### Вучыцца ў ешывоце ехалі з Англіі, Германіі, Аўстрыі і Паўночнай Амерыкі

Рабін Берлін аказаўся найбольш здольным адміністратарам, яму дапамагала ў гэтым яго жонка Бацья Мірыям. Колькасць навучэнцаў працягвала расці і дасягнула 300 чалавек у канцы 1870-х гадоў, 400 – у канцы 1880-х. Высокая рэпутацыя ешывота прыцягвала навучэнцаў з іншых краін, у тым ліку з Англіі, Германіі, Аўстрыі і Паўночнай Амерыкі.

Берлін таксама значна пашырыў бюджэт ешывота, які ў 1885 годзе дасягнуў 16 675 рубля срэбрам, з якіх 6 000 рублёў былі выдаткаваныя на падтрымку студэнтаў (на малодшых курсах атрымлівалі 3,58 рубля штомесяц, а на старэйшых 9,56), і 3618 рублёў на заработную плату настаўнікам. У канцы 1860-х гадоў рабі Берлін вырашыў сабраць сродкі для новага будынка і бібліятэкі і паслаў сваіх эмісараў ва ўсе дыяспары. Справа атрымалася, і мураваны будынак у тры паверхі быў пабудаваны на гэтыя сродкі.

### Распарадак дня ў ешывоце

Для вучняў быў распрацаваны распарадак дня. Малітва ў 8 раніцы, потым сняданак. Затым чытанне і тлумачэнне тыднёвага раздзела Торы рабінам ешывота. Самастойныя заняткі з 10 раніцы да гадзіны дня, падчас якіх кіраўнік сачыў, каб ніхто не прапускаў гэтыя заняткі. Пасля былі лекцыя рабіна і абед.

Вучні вярталіся ў ешывот да чатырох гадзін дня. Затым былі самастойныя заняткі да 10 вечара, малітва маарыў і вячэра. Нягледзячы на забарону, многія вярталіся ў ешывот і вучыліся да поўначы. Яны спалі да трох гадзін ночы і затым працягвалі навучанне да раніцы.

У 1860-х гадах у яўрэйскай прэсе стала праяўляцца апазіцыя ешыботам. Крайнія змагары развіцця свецкай адукацыі патрабавалі іх зачыніць, іншыя крытыкавалі іх сістэму навучання і яе змест і жадалі ўвесці агульныя прадметы, як было прынята ў рабінскіх семінарыях у Германіі і ў заходніх краінах.

Рабін Берлін выступае катэгарычна супраць якіх-небудзь змяненняў такога роду. У 1887 годзе шэраг вядомых рабінаў, у тым ліку Іцхак Эльханан Спектар, Ёсеф Бер Салавейчык і Нафталі Берлін былі выкліканыя з Валожына ў Санкт-Пецярбург. Тут было прынятае рашэнне аб прызначэнні спецыяльнага настаўніка для выкладання ў Валожынскім ешывоце рускай мовы і арыфметыкі, пры ўмове, што гэтыя заняткі будуць праводзіцца не ў ешывоце, а за яго межамі. Аднак гэта рашэнне не было выкананае.

Прыхільнікі рэформаў сталі патрабаваць змяненняў у рэжыме ешывота, што, нарэшце, выклікала ўмяшанне з боку расійскіх органаў кіравання адукацыяй.

З 1886 года рабінам у Валожыне быў Рафаэль Шапіра (1837 – 1921), з 1910 – І.Л. Авіда, у 1915-м – Шымон Перскі. У канцы 19 стагоддзя Пінхос Турберг (1875 – 1951) выдаваў у Валожыне часопіс "Габокер-Ор".

**У 1909 ў Валожыне былі чатыры сінагогі і народнае яўрэйскае вучылішча з жаночай зменай.**

### Закрыццё ешывота

У 1891 годзе рускі міністр народнай асветы зацвердзіў Правілы аб Валожынскім ешывоце, згодна з якімі студэнты павінны былі з гэтага часу вывучаць не толькі Талмуд і крыніцы яўрэйскіх рэлігійных законаў, але і рускую мову і арыфметыку ў аб'ёме курсу яўрэйскіх народных вучылішчаў. Кіраўнік ешывота Нафталі Берлін не пагадзіўся з гэтым, і ў 1892 годзе ўлады абвясцілі аб закрыцці ешывота. Нафталі Берлін і студэнты ўстановы былі высланыя з Валожына.

**Працяг будзе.**

**Уладзімір ПУЧКОЎ,
навуковы супрацоўнік Валожынскага раённага краязнаўчага музея.**

**КАЛЯНДАР**

**29 ЛІПЕНЯ**

**1941 год.** 75 гадоў назад памёр Якуб Чэхаўскі, атлет і барэц з Гродна (1879 – 1941). Сёння гэта імя амаль забытае. А гэта была асоба, годная ва ўсіх адносінах. Можна сказаць – легендарная. Імя Чэхаўскага засталося ў гісторыі не толькі айчыннага, але і сусветнага спорту. Яго фенаменальная сіла служыла прадметам захаплення, гонару за фізічныя магчымасці чалавека. На ўсе яго выступленні публіка, што называецца, валіла валам ў Вільні і Мінску, Пецярбургу і Варшаве.

**1981 год.** 35 гадоў назад памёр Міхась Ларчанка, літаратуразнавец і крытык, які ў 1956 годзе абвінавачваўся ў "нацыяналізме". Працаваў загадчыкам кафедры і дэканам філфака БДУ.

**1 ЖНІЎНЯ**

**1861 год.** 155 гадоў таму назад памёр Ігнат Ходзька, пісьменнік, мемуарыст.

**2 ЖНІЎНЯ**

**1886 год.** Нарадзіўся Мікалай Гуткоўскі, грамадскі дзеяч, юрыст. Скончыў юрыдычны факультэт Варшаўскага ўніверсітэта (1912). Падчас Першай сусветнай мабілізаваны; юрысконсульт штаба Румынскага фронту. У 1917—1919 гадах удзельнічаў у стварэнні беларускіх арганізацый у Адэсе. Пэўны час знаходзіўся ў складзе войскаў Врангеля ў Крыме. З чэрвеня 1921 года ў Мінску. Працаваў у Наркамаце асветы БССР; аднachасова з 1922 года навуковы супрацоўнік Інбелькульта, выкладчык БДУ. У 1924 – 1925 гадах супрацоўнік Пастаяннага прадстаўніцтва БССР пры ўрадзе СССР. Пасля ў СНК БССР. Арыштаваны ДПУ БССР у 1930 годзе па справе "Саюза вызвалення Беларусі". Рэабілітаваны пасмяротна.

**3 ЖНІЎНЯ**

**1971 год.** Памёр Янка Маўр (сапр. Іван Фёдараў), пісьменнік, перакладчык, адзін з пачынальнікаў беларускай дзіцячай літаратуры.

**4 ЖНІЎНЯ**

**1651 год.** Войскі Вялікага княства Літоўскага на чале з князем Янушам Радзівілам узялі Кіеў (Украіна).

**1676 год.** 340 гадоў таму назад нарадзіўся Дамінік Рудніцкі, беларускі і польскі пісьменнік, педагог.

**2001 год.** Памёр Вячаслаў Адамчык, пісьменнік. Нарадзіўся на Гродзеншчыне, вучыўся ў БДУ. Скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1965). Працаваў на кінастудыі "Беларусьфільм".

**Падрыхтавала
Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Разнімаць п'яных у метро і ўпотайкі чытаць у бібліятэцы

## Якія нечаканасці чакаюць у працы па размеркаванні?

**Ужо на наступным тыдні, ад першага жніўня, працаваць па размеркаванні пачнуць маладыя спецыялісты. А тыя, хто ўжо адпрацаваў два гады, змогуць змяніць працу. Як праходзіць два гады размеркавання? Пра гэта "РГ" распавялі маладыя спецыялісты з рэгіёна.**



"Чамусьці ўсе думаюць, што ў бібліятэках працуюць толькі занудныя цётачкі. Але ў нас там часам была такая весялуха, што словамі не перадаць!" – кажа Іра Кухальская, паказваючы сваю любімую кнігу пра стрыт-арт у Берліне.

Фота Аляксандры ПАРАХНІ

### Іра Кухальская, Маладзечна

Я скончыла Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў, пасля чаго мяне размеркавалі ў адну з мінскіх дзіцячых бібліятэк.

У нас перад размеркаваннем усе так панікавалі! Шмат хто хацеў застацца ў сталіцы. Парабілі часовую рэгістрацыю, убухалі шмат грошай. Але амаль нікому гэта не дапамагло.

Я прынцыпова гэтага не рабіла. Але на апошнім курсе ўжо працавала ў адной бібліятэцы, адтуль мне далі запыт, туды і размеркавалі.

Ад самага пачатку ведала, што пасля адпрацоўкі сыду. Малы заробак, менш за тры мільёны. Калі загадчыца размяркоўвае прэмію, ёй было важней не пакрыўдзіць старых супрацоўнікаў, чым даць за актыўнасць маладым. Немагчыма цалкам сябе забяспечваць, маючы заробак бібліятэкара. Гэта першае.

Яшчэ ты вельмі залежыш ад меркаванняў загадчыцы. Калі трэба было зрабіць кніжную выставу, прысвечаную паэтам, я прапанавала Барадуліна. Мінуў тыдзень з дня яго смерці. Але мне не дазволілі, бо гэта "апазіцыйны паэт". І няважна, што народны.

Папрацаваўшы там год да размеркавання, я зразумела, што нейкая мадэрнізацыя нікому не трэба.

Увесь час сутыкаешся з нейкім СССР. Напрыклад, мы ўсе павінны выходзіць з бібліятэкі разам, нават калі некаму трэба сысці раней. Такая традыцыя. Цябе, вядома, адпусцяць калі што, але ўсе будуць вельмі незадаволеныя.

Ці такі прыклад: нават калі няма наведнікаў і працы, ты павінны актыўна яе імітаваць, каб не было канфлікту. Ты не можаш чытаць на працоўным месцы, калі няма працы! Кнігі папраўляеш ці робіш выгляд, што складаеш сцэнар для мерапрыемства.

Мы чыталі, вядома, але калі загадчыца бачыла, была вельмі незадаволеная. Хаваліся. Я вывучыла крокі ўсіх супрацоўнікаў і калі чула загадчыцу, хуценька ўсё хавала.

Калі быў завоз новых кніг, прыходзіла шмат каляровых і сучасных. Мы з дзяўчатамі іх заўсёды чыталі, каб пасля распавесці наведнікам, парэкамендаваць. Старэйшыя жанчыны ўсе новыя кнігі ставяць на паліцу і нават не гартаюць. А калі прыходзіць мама з дзецьмі, яны рэкамендуюць ім не новую, а старую савецкую кнігу, бо яны яе добра ведаюць. Адкуль тады ў дзяцей з'явіцца цікавасць да кніг?

Агулам не магу сказаць, што праца мне не падабалася. Падыход дрэнны, я не люблю сядзець і марнаваць час. А там такая сістэма: прыйсці і адсядзецца. Калі ты актыўнічаеш, цябе не вельмі падтрымліваюць – ты быццам паказваеш, што вось я такі актыўны, а вы нічога не робіце.

Магчыма, размеркаванне – гэта не так дрэнна, калі ты ўпэўнены ў выбары прафесіі. Але калі ты вучышся толькі, каб атрымаць дыплом – гэта трагедыя.

У маім выпадку я разглядаю гэта як яшчэ адну спробу зразумець сваё месца, таму мне не шкада гэтых гадоў.

### Павел Хаванскі, Вілейка

Я скончыў БНТУ ў 2013 годзе, спецыяльнасць "гарадскі электрычны транспарт". У Вілейцы такога няма, таму размеркавалі ў мінскі метрапалітэн.

Напачатку быў задаволены. Добры заробак для маладога спецыяліста і добра ставіліся, пакуль праз пару месяцаў не змянілася кіраўніцтва. Прыйшоў новы кіраўнік і папрасіў, каб я пару месяцаў перавёўся ў звычайныя электрамеханікі, а пасля новага года мяне перавядуць назад, накінуўшы 0,5 стаўкі электрамеханіка. Я быў не супраць і пагадзіўся. Але мяне так і не перавялі назад, і больш таго, пачалі зразаць прэмію. Я пачаў з імі "бадацца": у выніку перамог і недапрацаваў два месяцы.

Я абслугоўваў ліфты і нахільна-лесвічныя платформы (НЛП) – такія канструкцыі, на якіх можна спусціцца па лесвіцы ў інвалідным вазку. Ад маёй працы залежаў камфорт інвалідаў. Але ў Мінску для іх няма ўмоў, таму ў метро яны амаль не ездзяць. Толькі раз за два гады я дапамагаў спусціцца на НЛП.

Таксама праводзіў тэхагляд ліфтаў, дапамагаў ліфцёркам. У іх стаяць камп'ютары, у якіх многія нічога не разумеюць. Часам дапамога зводзілася да таго, каб проста перазагрузіць ці ўключыць гук.

Сітуацый шмат было і смешных, і сумных адначасова. Хто з пасажыраў засядзе ў ліфце і трэба даставаць, а яны панікуюць, потым кідаюцца на цябе, пішуць скаргі. Аднойчы дзявятага мая электрамеханік уключыў рэзка эскалатар не ў той бок, шмат людзей упала.

Думкі застацца пасля заканчэння не было ніводнай.

Цяпер я фрылансер у сферы інтэрнэт-маркетынгу. У гэтай працы, у параўнанні з мінулай, адны плюсы.

Да размеркавання стаўлюся дваяка. Для некага гэта добры шанец атрымаць досвед працы. Для іншых – катаванне, прымус працаваць там, дзе няма жадання працаваць.

Асабіста для мяне гэта больш досвед працы на дзяржпрадпрыемстве, куды больш ніколі не вярнуся, досвед працы з людзьмі і невялікага кіраўніцтва – у брыгадзе было каля 40 ліфцёрак. А таксама досвед адстойваць свае правы.

### Кірыл, пажадаў не называць прозвішча

Пасля заканчэння Мінскага радыётэхнічнага каледжа на размеркаванне ў мяне атрымалася дамовіцца толькі з адным з заводаў рэгіёна.

З самага пачатку мяне накіравалі ў цэх на станкі – а гэта не мая спецыяльнасць. Але начальніца сказала, што там будзе вышэйшы заробак. Насамрэч заробак ледзь дацягваў да мінімалкі. Я мог жыць у бацькоў, таму грошай хапала на ежу і адзенне. Самому на заробак было б нерэальна пражыць.

Праца ідзе ў тры змены. У начную ў цэху было холадна, нават у жніўні-верасні. Дах дзіравы, падчас дажджу з яго капала, нават некаторыя станкі стаялі ў плёнцы, каб іх дажджом не намачыла.

Узімку холадна было паўсюль, акрамя другога паверха, дзе сядзіць кіраўніцтва. Часта даводзілася працаваць у куртцы і шапцы.

Я звяртаўся ў аддзел кадраў, каб мяне перавялі ў іншы аддзел, па спецыяльнасці, але мне казалі, што я пакуль не маю досведу для гэтага.

Пасля мне прыйшла павестка з ваенкамата, таму я звольніўся. Але літаральна за два дні да адпраўлення ў войска вырашылі, што я непрыгодны для службы. Давялося зноў шукаць працу. Я не хацеў ехаць у Мінск, было жаданне застацца. Але працы ў іншых арганізацыях знайсці не змог, таму вярнуўся на завод дапрацаваць размеркаванне. Але ўжо не ў цэх, а ў аддзел.

Працавалася і сумна, і весела адначасова. На заводзе ёсць прахадная, таму ніякіх спазненняў ці "збег крыху раней з працы" быць не магло. Я працаваў слесарам, з прыборамі. На заводзе не было столькі прыбораў, каб штодзень па восем гадзін з імі працаваць! У іншых аддзелах тое ж самае. Навошта на двух грузчыкаў трое камандзіраў? Там няма чаго грузіць! І зашмат было бюракратыі, такое ўражанне, што паўзавода сядзіць і перакладае паперкі.

Калі ў працы быў вольны час, я чытаў. Часам лавіў сябе на думцы, што сяджу бы гаспадыня: зашываю працоўную куртку і адначасова гляджу фільм.

Адзінай рэальнай працай былі камандзіроўкі: часам трэба было ездзіць з прыборамі ў іншыя гарады. Мне гэта падабалася, і іншыя цешыліся, што я гэтым займаюся, бо самім не хацелася варушыцца і некуды цягацца.

Відаць, што многія за працу проста трымаюцца. Каму да пенсіі дапрацаваць, каму да канца размеркавання, а хто проста ведае, што іншай працы не знойдзе.

Калі скончылася размеркаванне, я склаў спіс плюсаў і мінусаў працы на заводзе. Плюсы былі толькі два: шмат вольнага часу і камандзіроўкі. Мінусаў нашмат болей: умовы працы, заробак, не было перспектывы кар'ернага росту. Ну, пачаў бы я атрымоўваць не паўтара мільёна, а два з паловай, а сэнсу? Гэта не дапамагло б мне злезці з бацькоўскай шыі.

Стаўленне да мяне ў калектыве было добрае, там працуюць добрыя людзі. Ніякай "дзедаўшчыны" я не адчуў.

Не магу сказаць, што гэтыя два гады прайшлі ўпустую. Я навучыўся працаваць з новымі прыборамі. Але на гэта не варта было траціць гады, хапіла б і месяца.

Я лічу, што размеркаванне добрае тады, калі да яго падрыхтавацца з першага курса. Ці добра можа быць тым, хто сам працу не знайшоў, але працаваць хоча – размеркаванне іх ратуе.


Аляксандра ПАРАХНЯ
E-mail: alesia.ptushka@gmail.com







Для віляйчанкі Надзеі і яе мужа Аляксея Шарманавых вянчанне – свядомы крок злучыць яшчэ больш свае сэрцы. Маладым спатрэбіўся год, каб прыйсці да разумення, што іх шлюб трэба зрабіць больш трывалым, а значыць, яны гатовыя да вянчання. Фота Яўгена Стэльмаха.

# Незвычайнае вянчанне на Вілейшчыне: маладыя ў вышыванках і ў вянках з палявых кветак

ВІЛЕЙКА

**Для некаторых вянчанне – гэта даніна традыцыі: бацькі вянчаліся – і іх шлюб быў непарушны, таму і нам трэба вянчацца. Для іншых – даніна модзе і прыгожая цырымонія. Для віляйчанкі Надзеі і яе мужа Аляксея Шарманавых – гэта свядомы крок злучыць яшчэ больш свае сэрцы.**

Маладым спатрэбіўся год, каб прыйсці да разумення, што іх шлюб трэба зрабіць яшчэ больш трывалым, а значыць, яны гатовыя да вянчання.

### Васількавае вяселле

Летась іх вяселле запомнілася гасцям васільковым колерам.

Як прызнаецца сама жанчына, для яе васількі – гэта сімвал дзяцінства. Таму яна прапанавала свайму жаніху зрабіць урачыстасць менавіта ў васільковым колеры, ён пагадзіўся.

– Распісваліся 18 ліпеня, таму вельмі перажывала, каб васількі не перацвілі. Не ведаю, што б рабіла ў такім выпадку, – узгадвае Надзея. – Аднак нам вельмі пашчасціла, і ў канцы ліпеня кветак было безліч.

На нявесце была васільковая шаль, жаніх – у касцюме сіняга колеру.

Праз год сям'я Шарманавых зрабіла незвычайнае і адначасова запамінальнае вянчанне. Маладыя былі ў вышыванках, замест кароны, якую звычайна трымаюць мужчыны над галавой маладых, былі вянкі.

### На таінстве ўдзельнічалі толькі родныя

Павянчацца маладыя вырашылі ў коле самых блізкіх і родных, таму ў царкве прапанавалі не трымаць над галовамі карону – гэта вельмі цяжка. Прапанавалі альтэрнатыўны варыянт – вянкі з палявых кветак.

– Рабіла іх сама, – ганарыцца маладая жонка. – Не шукала кветкі, якія маюць нейкае сакральнае значэнне. Я не веру ў разнастайныя забабоны. Калі сплятала, думала пра тое, каб ніякае няшчасце не разлучыла мяне з мужам, каб мы заўсёды знаходзілі ўзаемапаразуменне, жылі шчасліва. Падмацоўвала мае думкі трывалай ніткай.

У вянок Надзея сабрала піжму, крываўнік, каласы, васількі.

Мы ўзялі на сябе смеласць праверыць, ці са станоўчай энергетыкай маладая сям'я выбрала сабе расліны. І сапраўды, душа закаханых не падманула.

**У фальклоры крываўнік – сімвал непакорлівасці, трываласці, жывучасці. А значыць, сям'я Шарманавых зможа вытрываць усе беды, якія напаткаюць іх. Піжма – расліна адметная вялікай колькасцю насення. Значыць, і дзетак у сям'і будзе многа. Каласы – сімвал багацця. І, думаючы пра васількі, адразу ўзгадваюцца словы з верша Максіма Багдановіча "Слуцкія ткачыхі" – "цвяток радзімы – васілька".**

Будзем спадзявацца, куды б не заносіў маладую сям'ю лёс, яны будуць вяртацца да вытокаў, у сваё гняздо.

– Пасля таго, як сплела вянкі, уклала ў іх сакральнае значэнне, – дзеліцца Надзея. – Паверыла нават у тое, што калі надзець яго, то дапаможа ад галаўнога болю. Дзяцей жа, калі тыя хворыя, мамы часам накрываюць вэлюмам. Гавораць, што гэта дапамагае перамагчы хваробу.

Цяпер вянкі сушацца, пасля жанчына мяркуе зрабіць скрыначку, у якой будзе захоўваць сямейную рэліквію.

– Магчыма, вянчальныя вянкі і не захаваюцца на ўсё жыццё, – расказвае Надзея. – Аднак сямейнай рэліквіяй стануць іконы, з якімі вянчаліся. Мяркуем перадаць іх нашым дзецям.

### Было б больш часу, вышывала б сама

Вышыванкі сям'я купіла ў адной з крамаў у Мінску. Выбралі тыя, што спадабаліся, не глядзелі на сімволіку. Сэрца само падкажа, што трэба.

– Калі б было больш часу, больш бы грунтоўна рыхтаваліся да ўрачыстасці, – расказвае Надзея. – Вышывала б сама.

Маладая жанчына прызнаецца, што сама падрыхтоўка да вянчання вельмі зблізіла яе з мужам, яны па-іншаму адкрыліся адзін перад адным.

– Да вяселля мы некаторы час жылі разам, – расказвае Надзея. – Адносіны былі іншымі: пры любой спрэчцы хацелася развярнуцца і пайсці, нічога не трымала. Пасля таго, як распісаліся, наадварот, стараемся з большым разуменнем ставіцца адзін да аднаго, навучыліся больш адказна падыходзіць да адносінаў.



Галіна СІНІЦА
8793850
@gmail.com
Skype: sinica-galina92

НАВІНЫ

## Палачаны прынялі спаборніцтвы па пераадоленні перашкодаў

МАЛАДЗЕЧНА

21-24 ліпеня ў Палачанах адбыліся рэспубліканскія спаборніцтвы па пераадоленні перашкодаў сярод коннікаў 1998 года нараджэння і маладзейшых.

У спаборніцтвах узялі ўдзел 40 коннікаў.

На жаль, спартсмены ААТ "Палачаны" і ДЮСШ №2 Маладзечна не ўвайшлі ў зборную Мінскай вобласці, але і асабовым заліку без прызавых месцаў не засталіся.

Калі ўлічыць тое, што пераможцам спаборніцтваў стаў конь, якога выгадавалі ў Палачанах, а затым прадалі ў Брэст, то можна сказаць, што Палачанская школа – самая лепшая.

У пераадоленні бар'ераў вышынёй да 125 сантыметраў другім стаў спартсмен ААТ "Палачаны" **Арцём Пірог** на кані Ліберал, у канкуры да 100 сантыметраў Арцём стаў трэцім на кані Лаўроўка.

Трэцяе месца ў пераадоленні бар'ераў да 110 сантыметраў заняла **Ганна Склокіна** на кані Канстанта, Ганна прадстаўляла ДЮСШ №2.

Трэцяе месца ў пераадоленні перашкод да 100 сантыметраў заняла яшчэ адна прадстаўніца ДЮСШ №2 – **Святлана Дземеш** на кані Азбука.

– Сёлета ў нас вельмі шмат спаборніцтваў, – расказвае дырэктар ДЮСШ №2 **Наталля Шаліма**, – 6-7 жніўня пройдуць фінальныя спаборніцтвы першынства Маладзечанскага раёна. Затым ад 18 жніўня будуць праводзіцца заезды, адбор на рэспубліку.

## Маладзечанец у ліку лепшых у Еўропе

МАЛАДЗЕЧНА

22-24 ліпеня ў сталіцы Нарвегіі Осла абдылося першынство Еўропы па грэка-рымскай барацьбе сярод кадэтаў 1999-2000 гадоў нараджэння.

Маладзечна ў складзе зборнай краіны прадстаўляў **Арцём Валасковіч**. У сваёй вагавой катэгорыі да 69 кілаграмаў, у якой бралі ўдзел 36 спартсменаў, Арцём стаў трэцім.

– Усяго ж у спаборніцтвах было прадстаўлена 10 вагавых катэгорый, і толькі аднаму спартсмену з нашага раёна пашчасціла не толькі ўзяць удзел у спаборніцтвах, але і заняць прызавое месца, – расказаў "Рэгіянальнай газеце" трэнер Арцёма **Антон Найлавец**. Ён трэніруе Арцёма разам са сваім сынам **Дзянісам Найлаўцом**.

**Наталля ТУР.**

## "Ашмяны" буйна прайгралі лідару

АШМЯНЫ

У чэмпіянаце Беларусі па футболе ў першай лізе ФК "Ашмяны" 23 ліпеня дома гуляў супраць лідара – "Гомеля". Гаспадары прайгралі з лікам 0:5. Тры галы ўляцелі ў вароты "Ашмянаў" у першым тайме, яшчэ два – у другім.

– Прайгралі па ўсіх артыкулах, супраціўляліся толькі першыя паўгадзіны, – расказаў прэс-аташэ ФК "Ашмяны" **Аляксандр Навумчык.**

"Ашмяны" займаюць апошняе, 14-е месца.

Завяршыўся першы круг чэмпіянату. Падчас невялікага перапынку адбудуцца змены ў складзе "Ашмянаў" .

– Некаторыя гульцы клуб пакінуць. У складзе нашай каманды ўжо два новыя гульцы: **Дзмітры Хмяльніцкі** і **Дзмітры Купнеўскі**. Абодва перайшлі з мінскага "Тарпеда", – дадаў Аляксандр.

## "Смаргонь" атрымала валявую перамогу

СМАРГОНЬ

ФК "Смаргонь" на дамашнім стадыёне перамог. Гульня супраць "Слоніма" 24 ліпеня завяршылася з лікам 2:1.

Смаргонцы прапусцілі гол на 62-й хвіліне, але здолелі не толькі адыграцца, але і вырваць перамогу.

Першым у гаспадароў гол забіў на 74-й хвіліне **Аляксей Тараканаў**, а за хвіліну да заканчэння асноўнага часу матча вызначыўся **Сямён Смунёў**.

Пасля гэтай перамогі "Смаргонь" узнялася ў турнірнай табліцы на сёмае месца.

## Перайгралі нарачанцаў

МЯДЗЕЛ

У чэмпіянаце дваровай лігі Мядзельскага раёна 23 ліпеня гулялі ФК "Юніён Нарач" і ФК "Юнацтва" з Мядзела. Нарачанцы саступілі гасцям з райцэнтра 1:2.

– У першым тайме была роўная і упартая барацьба. Госці адкрылі лік з вуглавога: навес галавой замкнуў **Яўген Кокар**, – расказаў капітан ФК "Юніён Нарач" **Аляксей Раброў**. – У другім тайме наша каманда часцей валодала мячом і стварала небяспечныя моманты. У канцоўцы сустрэчы **Казак** зарабіў пенальці і сам яго рэалізаваў. Нарачанцы адквіталі толькі адзін мяч: прастрэл пяткай замкнуў **Дзмітры Малафей**.

**Аддзел інфармацыі.**

# Маладзечанцы на куражы: зноў перамога – 2:0

МАЛАДЗЕЧНА

**У гэту суботу футбольная каманда "Маладзечна-ДЮСШ-4" перамагла каманду з Рагачова.**




Сяргей Галюк падчас матча атрымліваў заўваг ад трэнера больш, чым астатнія гульцы.
Фота Наталлі ТУР.

І дзякуючы гэтай перамозе ўзнялася на чацверты радок турнірнай табліцы.

Але пра ўсё па парадку.

Магчыма, вечар суботы летам не самы лепшы час для таго, каб ісці на футбол, калі завуць і рэчка, і шашлыкі, але сапраўдныя заўзятары ведаюць, што без іх падтрымкі каманда, можа, і не справілася б.

Было як было. Рэдкія гледачы на трыбунах і шчыльныя рады фанацкага сектара атмасферу ўсё ж стварылі.

На поле выйшаў стартавы склад гульцоў: **Антон Галгоўскі**, **Арцём Грыб**, **Аляксандр Альховік**, **Мікіта Харко**, **Сяргей Дрозд**, **Максім Чабрыцкі** (яго замяніў **Сяргей Галюк** ад пачатку другога тайма), **Ігар Нарожнік**, **Павел Галубовіч**, **Юры Пустаход** (яму на змену выйшаў **Юры Бугай**), **Ігар Талькоўскі** (Ігара замяніў **Ягор Майстровіч** на апошніх хвілінах сустрэчы), **Павел Майсяёнак** (на змену якому выйшаў **Антон Талстой** – аўтар другога гола ў сустрэчы).

Першая палова гульні праходзіла ў роўным супрацьстаянні: небяспечныя моманты стваралі як гаспадары, так і госці.

Пасля заканчэння гульні трэнер Рагачова **Уладзімір Сіманенка** сказаў, што першыя 20 хвілін матча прайшлі як мае быць:

– І каб забілі ў гэты час, маглі б на нешта спадзявацца. А так, проста гулялі ў футбол.

На перапынак каманды сыходзілі з нулявым вынікам.

За некалькі хвілін да перапынку – традыцыйная вылазка ў "людзі". Маленькія гледачы на трыбунах прызнаюцца, што прыйшлі паглядзець на свайго трэнера, гульца пад нумарам 17 – Паўла Галубовіча.

– Бачыце, вунь ён там з мячыкам бяжыць, а нешта ён не вельмі гуляе, а яшчэ трэнер. Хаця, мы б і так не змаглі, – паглядзелі адзін на аднаго маленькія заўзятары.

Другі тайм распачаўся з замены ў камандзе Маладзечна.

Сяргей Галюк замяніў Максіма Чабрыцкага. Магчыма, мне падалося, але прозвішча Галюк я чула часцей за іншыя з вуснаў трэнера **Аляксандра Гармазы**: "Галюк, ты наогул на полі!", "Галюк, чаго ты звaліўся ў сярэдзіну!", "Галюк, рухайся хутчэй!"

І калі здавалася, што першы мяч нарэшце трапіць у вароты Рагачова, Сяргей ці не паспеў, ці праматаў па мячы, які павінны быў стаць голам!

– Я сам бачыў незадавальненне трэнера маёй гульнёй, – адказаў Сяргей Галюк, – ды і я сам незадаволены, мог быць лепш.

Але на 63 хвіліне справядлівасць перамагла – і вось ужо маладзечанцы святкуюць першы гол, які забіў наш лепшы бамбардзір Ігар Талькоўскі.

Праз 15 хвілін поспех маладзечанцаў замацаваў Антон Талстой.

Пасля гульні галоўны трэнер "Маладзечна-ДЮСШ-4" Аляксандр Гармаза прызнаўся, што вынік гэтай гульні быў заканамерны. Саму ж гульню назваў клейкай і цягучай.

Як пісалася вышэй, сваёй перамогай Маладзечна адваявала сабе чацверты радок турнірнай табліцы. І зноў у заўзятараў узнікла рытарычнае пытанне: а можа, усё ж у першую лігу налета?

На што трэнер каманды быў лаканічны:

– Спытайцеся пра гэта ў кіраўніцтва горада.

Спытацца можна, але ці не атрымаецца ў чарговы раз, як у Мікалая Гогаля: "Не дае адказу"...

**Наталля ТУР.**

## Чэмпіянат Беларусі. Другая ліга. 11 тур.

| № | Каманда | Гульні | Выйгрышы | Нічые | Пройгрышы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | ФК "Хваля" Пінск | 10 | 9 | 1 | 0 | 28 |
| 2. | ФК "Клецк" | 10 | 6 | 3 | 1 | 21 |
| 3. | ФК "Асіповічы" | 10 | 6 | 2 | 2 | 20 |
| **4.** | **ФК "Маладзечна-ДЮСШ-4"** | **10** | **6** | **1** | **3** | **19** |
| 5. | ФК "Вертыкаль" | 10 | 6 | 0 | 4 | 18 |
| 6. | ФК "Нёман-Агра" | 10 | 4 | 4 | 2 | 16 |
| 7. | ФК "Мантажнік" | 10 | 3 | 4 | 3 | 13 |
| **8.** | **ФК "Забудова-буд"** | **10** | **4** | **1** | **5** | **13** |
| 9. | ФК "Рагачоў МК" | 11 | 4 | 0 | 7 | 12 |
| 10. | ФК "Тарпеда" | 10 | 3 | 2 | 5 | 11 |
| 11. | ФК "Вікторыя" | 10 | 2 | 3 | 5 | 9 |
| 12. | ДЮСШ "ДСК" | 10 | 1 | 3 | 6 | 6 |
| 13. | ФК "ЮАБ Жыткавічы" | 11 | 0 | 0 | 11 | 0 |

# "Рэгіянальная газета" пачала праект "Наша кухня"

**Генеральным спонсарам самага ўтульнага праекта "РГ" стаў музыкант і шахматыст Віталь Качаткоў, гаспадар крамы "Сантэхніка-плюс" па адрасе: Маладзечна, Чкалава, 4.**




Кухня – важнае месца для любога дома. У ёй гаспадыня праводзіць большую частку часу. Малых дзяцей яна заманьвае ласункамі, бо менавіта там яны могуць пачаставацца цукеркамі і пячэннем. Гэта месца, дзе мы збіраемся для ўрачыстасцяў і вырашэння важных праблем. Для кожнага ў сям'і гэта месца раскрываецца па-свойму. Мы хочам дапамагчы зрабіць вашы кухні больш утульнымі, каб туды хацелася заходзіць зноў і зноў…

Менавіта таму ад 25 ліпеня на нашым сайце rh.by з'явілася старонка, якая збірае інфармацыю пра тое, што спатрэбіцца на кухні.

Мы распрацоўваем два вялікія блокі. У першым будзе размяшчацца шэраг артыкулаў, якія дапамогуць гаспадарам зарыентавацца, як зрабіць на кухні рамонт. Тыя, хто хоць аднойчы займаўся рамонтам кухні, ведае, што гэта самы адказны і складаны пакой, у якім неабходна прадумаць кожную дэталь. Тут няма дробязяў, ад кожнага этапа залежыць, ці стане ваш сямейны ачаг зручным, прыгожым і ўтульным настолькі, каб рабіць вашу сям'ю больш шчаслівай кожны дзень.

У блоку, прысвечаным рамонту, будзе чатыры раздзелы:

- аддзелка – пра спосабы і матэрыялы, патрэбныя для таго, каб зрабіць "каробку", аснову кухні, – як выбраць пакрыццё для сцен і падлогі, якую варта выбраць столь. На гэтым этапе неабходна асаблівую ўвагу звярнуць на сантэхніку, таму што без якаснай сантэхнікі нават каралеўскі інтэр'ер будзе сапсаваны, калі вы не зможаце без прыгод памыць кубак ці запусціць пасудамыйную машыну.

Вы не памыліцеся, калі звернецеся па кансультацыю да спонсара праекта Віталя Качаткова, гаспадара крамы "Сантэхніка-плюс". Вы можаце нават проста напісаць пытанне ў каментары пад артыкулам "Без каналізацыі няма цывілізацыі";

- бытавая тэхніка – падрубрыка не толькі пра тое, якая прылада якія функцыі мае, але і пра тое, як увогуле зарыентавацца, што канкрэтна з бытавой тэхнікі на самой справе спатрэбіцца менавіта вам;

- мэбля – падрубрыка, якая дапаможа сысціцца не толькі на дызайне, але і на вытворцы;

- аксесуары. Самы прыемны этап, калі галоўнае зроблена, самыя дарагія пакупкі аплачаныя, і застаецца толькі надаць інтэр'еру індывідуальнасць і ўтульнасць.

Другі блок аб'ядные тых, каму ёсць чым пахваліцца і чаму павучыцца. У ім мы запрашаем вас, дарагія чытачы, распавесці пра тое, як вы зрабілі рамонт у сваёй кухні, і даслаць фота пакоя. Можаце таксама запрасіць нас, каб мы распавялі пра кухню вашу ці вашых знаёмых.

Таксама мы запрашаем дасылаць рэцэпты страў, пажадана з фотаздымкамі.

Пазней сярод тых, хто дашле аповед пра сваю кухню, і асобна сярод тых, хто даслаў рэцэпт з фота, мы зладзім конкурс з розыгрышам прызоў.

Праект "Наша кухня" доўгатэрміновы. Мы толькі запусцілі яго 25 ліпеня, а запаўняць будзем разам з вамі цягам шасці месяцаў. Каб, падзяліўшыся досведам адзін з адным, дапамаглі кожнаму стварыць сваю кухню мары!

Генеральны спонсар праекта "Наша кухня" – магазін "Сантэхніка-плюс", Маладзечна, Чкалава, 4.

Даслаць апісанне кухні ці рэцэпты з фота можна па адрасе: regionnews@rh.by.

Абмеркаваць магчымасць паўдзельнічаць у праекце ў якасці рэкламадаўцы можна па нумарах: **(80176) 75-38-41, (8029) 676-84-20** ці праз пошту **reklama@rh.by**.

**Аддзел інфармацыі.**

**Паважаныя гаспадары крамаў і фірмаў, калі ваша прадукцыя сапраўды настолькі якасная, што ўпісваецца ў праект "Наша кухня", запрашаем вас паўдзельнічаць і распавесці пра свой тавар. Цана рэкламнага артыкула – 80 рублёў (800 тысяч).**



## Хінкалі

**Неяк бачу, як мая калега Галіна Сініца есць незвычайную страву. Я так нясмела спыталася: "А што гэта ў цябе сёння на абед". Тая адразу: "Хінкалі". Я яшчэ раз перапытала і адразу да ГУГЛа.**

Аказваецца, хінкалі – гэта страва нацыянальнай грузінскай кухні. Яны, як і пельмені, робяцца з цеста (мука, соль, вада) з дадаваннем яек ці без іх. Начынкай для хінкалі з'яўляецца мяса (ялавічына, свініна, радзей бараніна), пракручанае праз мясарубку ці дробна парэзанае. Традыцыйна іх лепяць такім чынам, каб зверху атрымаўся невялікі "хвосцік" з цеста. Так іх лёгка трымаць. Зleпленыя хінкалі адварваюць у кіпячай вадзе.

***Для начынкі:** 550 г фаршу, 1 ч. лыжка прыправы "хмелі-сунелі", соль – на смак, палова пучка кінзы і пятрушкі, трохі меней кропу, 3 цыбуліны, 3 зубкі часнаку, 80 мл вады, палова чайнай лыжкі чорнага перцу. **Для цеста:** 3 шклянкі пшанічнай мукі, 1 яйка, 1,5 шклянкі вады, 1 ч. лыжкі солі, 2-3 ст. лыжкі алею.*

Прасейце палову мукі так, каб атрымалася горка. Зрабіце ў ёй паглыбленне і дадайце алей, яйка. Адной рукой замешвайце, не спяшаючыся, а другой падлівайце халодную падсоленую ваду. У выніку атрымаецца мяккая аднародная маса. Накрыйце ручніком і пакіньце яго адпачываць на 30 хвілін. У гэты час займіцеся прыгатаваннем фаршу. Пасля адпачынку дадайце астатнюю муку, замешвайце цеста на працягу 10 хвілін. Зноў накрыйце ручніком і адкладзіце на 30 хвілін. Пасля гэтага замясіце яшчэ раз цеста. Тут галоўнае, добра яго вымесіць. Каб зварыць хінкалі цэлымі і герметычнымі, каб булён застаўся ўнутры, яно павінна быць пругкае, падатлівае, не прыставаць да рук і стала, не патрабаваць дадатковай мукі. Такое цеста можна захоўваць каля трох дзён у халадзільніку, калі загарнуць яго ў харчовую плёнку. Так што яго можна прыгатаваць загадзя.

Рыхтуйце начынку. Перакруціце на мясарубцы ялавічыну і свініну ў роўнай колькасці. Добра, каб атрымаліся больш буйныя кавалачкі. Дадайце соль, прыправы, цыбулю, дробна нарэзаную, часнок, прапушчаны праз часночніцу, кроп, пятрушку і кінзу, таксама дробна парэзаныя. Усё добра перамяшайце. І самае галоўнае, каб хінкалі былі сочныя, дадайце малымі порцыямі, як бы "ўбіваючы" ў фарш, халодную ваду. Цяпер вашы хінкалі будуць з булёнам.

Бярыце качалку і раскачвайце цеста на тонкія пласціны дыяметрам 15 см. На сярэдзіну пакладзіце фарш і збірайце цеста ў складачкі, іх павінна быць 18-20, сфармуйце хінкалі. Сабраўшы ў складкі, добра зацісніце. Цяпер хінкалі, трымаючы за "хвосцік", трэба як бы страсянуць.

Як усе зробіце, апускайце ў падсолены кіпень. Асцярожна дапамагайце ім падняцца з дна. Хай кіпяць 15-20 хвілін. Пры падачы пасыпце чорным молатым перцам.

Есці хінкалі трэба таксама незвычайна: трымаючы за "хвосцік", адкусваць невялікі кавалачак цеста і асцярожна выпіваць мясны сок, і толькі потым прымацца за аснову. Ніякіх відэльцаў і нажоў. Будзьце асцярожныя, каб не апячыся.

**Проста МАРЫЯ.**

● ГАРАСКОП
29 ЛІПЕНЯ – 4 ЖНІЎНЯ


**Авен.** Стаяць на месцы – не ваша пазіцыя, але рух наперад поўны нечаканых момантаў. Не адмаўляйцеся ад запланаванага толькі таму, што вы не ведаеце, што там наперадзе.


**Цялец.** Займайцеся канкрэтнымі справамі, будзьце ўважлівыя, не дазваляйце выпадку вырашаць сітуацыю. Нельга дапусціць, каб ваша легкадумнасць негатыўна паўплывала на ваша жыццё.


**Блізняты.** Вы знаходзіцеся цяпер як бы ў яме – гэта пераломны момант, з якога пачынаецца пад'ём уверх. Перад світаннем жа ноч самая цёмная.


**Рак.** Знаходзіцца ў становішчы летуценніка можна, але не доўгі час. Перад вамі адкрываюцца перспектывы матэрыяльнага плана. Рэалізаваць іх дапаможа іншы чалавек, старайцеся не дзейнічаць у адзіночку.


**Леў.** Цяпер ваша задача – задаваць рытм і дзяліцца сваімі ідэямі. Гэты час падыходзіць для роздумаў, самапазнання і проста для адпачынку.


**Дзева.** Вы шмат працавалі, лёс дае перадышку, каб прыйсці ў сябе. Займіцеся цяпер вывучэннем новых сфер дзейнасці, самапазнаннем.


**Шалі.** Тых, хто мае намер на сур'ёзныя і доўгія адносіны, чакае рамантычная сустрэча. Яна адцягне вас ад матэрыяльных спраў і нават падсапсуе фінансавы стан. Але прыгода таго вартая. Цяпер любыя перашкоды вы зможаце пераадольваць разам.


**Скарпіён.** Са здароўем не жартуйце, за ім трэба сачыць, а не правяраць арганізм на трываласць.


**Стралец.** Вам трэба ўнесці змяненні ў сваё жыццё, ад шмат чаго былога адмовіцца, каб вызваліць месца для новага. Можа здацца, што вы дзейнічаеце ўпусту, але гэта не так.


**Казярог.** Перыяд добры. Адчуеце прыліў сіл, жаданняў і імкнення. Наперадзе можа з'явіцца пуцяводная зорка, якая павядзе вас. Усё будзе на ўра!


**Вадалей.** Ваша жыццё знаходзіцца ў стабільнасці і гармоніі. Нельга сказаць, каб вас літаральна ўсё радавала, ёсць нейкі застой у эмацыйнай сферы. Але гэта перыяд асэнсавання і адпачынак ад жарсцяў і жаданняў.


**Рыбы.** Хоць у вашых фінансавых справах і назіраецца стабільнасць, спакою вам гэта не дае. Вы ў чарговы раз спрабуеце дасягнуць вяршынь, але... Перачакайце гэты час.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

## НАДВОР'Е

### 30 ліпеня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +20 / +24 | | +18 / +26 | | +17 / +24 | | +19 / +26 | |
| | 737 | → 3 | 738 | → 5 | 740 | → 3 | 739 | ↑ 6 |
| Вільня | +22 / +23 | | +19 / +22 | | +17 / +22 | | +20 / +22 | |
| | 747 | ↘ 7 | 746 | → 6 | 749 | ↗ 3 | 748 | ↘ 3 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць ападкі, Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с. Усход, захад па Маладзечне

Усход 5.23
Захад 21.15
Даўжыня дня 15.52

Усход 2.01
Захад 18.12
Квадра 4

Віцебск +20 +25 744 ↗ 5
Гродна +19 +24 746 ↗ 6
Мінск +18 +26 738 → 5
Магілёў +20 +26 743 → 6
Брэст +18 +26 746 ↗ 4
Гомель +21 +28 747 → 3

### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**АШМЯНЫ**

Мінімальная тэмпература +7,4 °С у 1979 годзе
Максімальная тэмпература +33,7 °С у 1994 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 19,8 мм у 2000 годзе
Паводле meteoinfo.by

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Ці памятаеце вы, як зарабілі свае першыя грошы?



**Наталля Высоцкая, прадавачка:**
– Так, памятаю. Першыя грошы зарабіла ў калгасе, куды ездзіла капаць бульбу. І ўсе іх да капейкі патраціла на тое, каб купіць сабе фотаапарат.



**Аляксандр Івашанка, сталяр-станочнік:**
– Першыя грошы зарабіў у 15 гадоў. Уладкаваўся на сваю першую працу, мяне ўзялі рабіць вокны ПВХ. На што патраціў, таксама памятаю. У той час былі камп'ютарныя клубы, куды я хадзіў.



**Вікторыя Баярчук, у дэкрэтным адпачынку:**
– У студэнцкія гады прадавала квас на Ждановічах. Так і зарабіла. А потым скончыла свой гандлёва-індустрыяльны каледж і патраціла ўвесь заробак на выпускны.



**Таццяна Шыкавец, прадавец-касір:**
– Першыя грошы атрымала, калі трапіла працаваць у магазін па размеркаванні. Іх патраціла на тое, каб купіць цацак дачцэ і нарэшце самой, за свае грошы, плаціць за дзіцячы садок.



**Ягор Малдабекаў, зборшчык вокнаў ПВХ:**
– У 14 гадоў стаў разгружаць фуры з кавунамі. А патраціў у той жа месяц на атракцыёны, у Маладзечна тады прыехаў луна-парк.



**Сяргей Чыжык, электраманцёр:**
– З самага дзяцінства летам збіраў грыбы і ягады. Іх прадаваў і меў свае ўласныя грошы, каб купіць нешта смачненькае.



**Алена Русак, у дэкрэтным адпачынку:**
– Яшчэ калі вучылася ў школе, падчас летніх канікулаў ездзіла да бабулі ў вёску, там з сяброўкамі збіралі і прадавалі чарніцы. Гэта і былі першыя грошы, за якія тады купляла розныя прыгожыя сшыткі, алоўкі і іншую драбязу да школы.

Падрыхтавала **Наталля ТУР.**

## Чытайце праз тыдзень:

- **Адзін дзень у полі вачыма камбайнера. Як працуюць самыя галоўныя падчас жатвы людзі ў вёсцы, хто ім дапамагае і што перашкаджае.**



## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ ВАЛОЖЫНШЧЫНЫ




Вось такая птушка-сімвал Валожынскага раёна, зімародак, упрыгожвае вуліцу Івянца.

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 5 | | | | |
| | | 5 | 2 | | 8 | | 1 | |
| | 3 | | | | 7 | 9 | | |
| | 1 | 4 | | 8 | 2 | | | 7 |
| 3 | 6 | | | | | | 4 | 8 |
| 2 | | | 7 | 6 | | 1 | 3 | |
| | | 3 | 6 | | | | 7 | |
| | 2 | | 8 | | 1 | 3 | | |
| | | | | 7 | | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



## ГУМАРЭСКІ

### Рэцэпт

*– Твае грыбочкі – проста дзіва! –*
*Муж жонку хваліць за абедам. –*
*Адкуль рэцэпт, хацеў бы ведаць?*
*– Яго ўзяла я з дэтэктыва.*

### Маці корміць сыночка

*– Я суп твой есці не магу!*
*– Еш, еш, а то заву Бабу Ягу!*
*– Ты, мамачка, упэўнена,*
*Што стане есці суп яна?*

### Катэгорыі пенсіянераў

*"Садыст" – ён у садку ўвесь дзень капаецца.*
*"Баптыст" – пад ручку з бабкай сваёй бадзяецца.*
*"Экстрэміст" – гарэлкай "Экстра" захапляецца.*
*"Народны мсцівец" – а гэты скаргі строчыць: нішто яму не падабаецца.*

### Сямейны абед

*– Ці смачны суп? – яна спытала.*
*– Не маеш тэмы для скандала?*

### Крык уначы

*– Чаму твая крычала на цябе ўначы?*
*– Ды на сабаку, не на мяне яна крычыць.*
*– Сабака бедны. Так мне шкада яго:*
*Зарплату ёй аддаў бы – ды толькі і ўсяго!*

**Пётр ШАКОЛА, Ашмяны.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№31 (1109) 29.07.2016. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 728. Падпісана ў друк у 9.00 28.07.2016.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E-mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.